


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 11 (2966) Год LVIII | Беласток, 17 сакавіка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Інтэрв'ю з Георгіем Валкавыцкім, нараджаным 13 сакавіка 1923 года ў Белавежы, стваральнікам і шматгадовым галоўным рэдактарам „Нівы" ў 1956-1987 гадах, суарганізатарам Літаратурнага аб'яднання „Белавежа" ў 1958 г.

# Для паэтаў з „Руні" — знялі дзверы з клуні


Фота Галіны ВАЛКАВЫЦКАЙ-ДАЛЭНГІ

Важнейшыя ўзнагароды Георгія Валкавыцкага: Сярэбраны крыж заслугі — 1965, Заслужаны дзеяч культуры — 1968, Крыж кавалерскі Ордэна адраджэння Польшчы — 1969, Залатая адзнака „Заслужаны Беласточчыне" — 1976, Крыж афіцэрскі Ордэна адраджэння Польшчы — 1981.

**„Ніва":** — ***Ці сняцца Вам зараз сны пра родную Белавежу?***

**Георгі Валкавыцкі:** — Не, Белавежа мне не сніцца. Нават Кёнігсберг (Каралевец, Калінінград), так важны ў маім жыцці, дзе я быў вывезены немцамі на прымусовыя работы, таксама не сніцца. І Беластока няма ў маіх снах. Няма месца для месц у маіх снах.

— ***А людзі?***

— Людзі так. Сняцца мне сваякі, родныя, людзі „Нівы" і „Белавежы".

— ***Але ўсё жыццё цягнула Вас у родную мясцовасць і пушчанскія вандраванні. У дзяцінстве Вы не баяліся пушчы?***

— Мы ў пушчу ў пачатковай школе хадзілі вельмі часта са сваімі настаўнікамі. Заўсёды двойкамі з песняй на вуснах. Я са сваім сябрам Стаськам ішлі ў першай, бо былі запявaламі.

*(Тут дачка Георгія Валкавыцкага, Галіна, перадала мне словы песні, якую яны тады спявалі, а яна запісала яе раней ад бацькі:*

*„Ojciec syna wylał pasem, a syn ojca w łeb obcasem, hej, hej, hej*
*I popija czaj, czaj, czekoladę czarną, kawę*
*I pije czaj, czaj, czekoladę, rum, kakao,*
*Ojciec w niebie Bogu służy, syn na ziemi faję kurzy*
*I popija czaj, czaj".)*

Потым праз пушчу я хадзіў з Белавежы ў Гайнаўку ў школу. І калі, будучы на пенсіі, заязджаў там да сябе, то на роварах без боязі амаль усю яе з'ездзіў. З пушчанскімі дрэвамі адчуваю сябе вельмі добра. На сваёй сядзібе я пасадзіў амаль усе гатункі пушчанскіх дрэў. Вырасціў сваю малую пушчу. Асабліва люблю дубы.

— ***Таму пэўна, адклікаючыся да свайго роднага і блізкага, і ўзнікла 55-гадоў таму назад беларускае літаратурнае аб'яднанне невыпадкова назвалі Вы „Белавежай"?***

— Назву „Белавежа" на другім пасяджэнні літаб'яднання прыдумаў і запрапанаваў Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі). Мне яна спадабалася. У тым жа часе Барскі быў вельмі асабіста і эмацыянальна звязаны менавіта з маёй мясцовасцю.

— ***Ну так, вы, тады ўсе маладыя хлопцы, стройныя былі як пушчанскія дубы. Неяк не ўзрасталі разам з вамі жанчыны-сястрыцы, літаратурныя пушчанскія сосны.***

— Нешта такое было. З Беласточчыны вельмі мала жанчын пісала. З Варшавы былі жаночыя літаратурныя спробы. А ў нас мужчыны заняліся літаратурай. Быць паэтам імпанавала. Пасля выхаду першага зборніка „белавежцаў" „Рунь" на аўтарскіх сустрэчах заўсёды было шмат народу. А выступалі мы ўсюды. Памятаю, як у адной з вёсак Бельскага павета сцэну нам на панадворку зрабілі з дзвярэй ад клуні. Тады і ўзніклі такія радкі: „Для паэтаў з „Руні" — знялі дзверы з клуні".

— ***А Вы, як літаратурны рэдактар, многім нашым літаратурным пачаткоўцам адчынілі дзверы ў свет пісьменнасці і прызнання. Былі таксама і ў нас асобы, у якіх дадзены ім дар Божы неяк не рассвяціўся поўнасцю?***

— Так ёсць заўсёды ў кожнай літаратуры. Тут, у нас, на Беласточчыне, талентам паэтычнага слова вылучаўся святой памяці Уладзімір Гайдук. Мала хто мог яму дараўняць. Ён заўсёды паўтараў біблейскае „не купіце мяне за трыццаць срэбнікаў". Самародак, якому не ўдалося да канца высока ўзляцець. А павінен. Зусім прызабыты і Лявон Майсяюк, мой зямляк з Белавежы, сатырычны талент, які засвяціўся і знік. Памятаю таксама, што сённяшні старшыня „Белавежы" Ян Чыквін падрыхтаваў першы, вельмі добры свой зборнік, а я, прачытаўшы, з гэтага аднаго прапанаванага зрабіў два: „Святая студня" і „Іду".

— ***А як на тую, беларускую культурна-літаратурную дынаміку „Нівы" ці „Белавежы" глядзела польскае журналісцка-інтэлектуальнае асяроддзе?***

— На Беласточчыне з польскім літаратурным рухам было спачатку слабавата. У „Беластоцкай газеце" працаваў Рышард Красько. Ён друкаваўся, меў прызнанне. Іншыя нам зайздросцілі, што мы так дынамічна развіваемся. Пры „Ніве" моцных людзей пяра было не менш, чымсьці ў іншых рэдакцыях. Тады ў рэдакцыю пачалі прыходзіць і сябраваць з намі, між іншым, такія выдатныя адзінкі з польскага асяроддзя як Веслаў Казанэцкі, Эдвард Рэдлінскі, Збігнеў Насядка, Ян Леанчук. Пілі з нашымі журналістамі, дыскутавалі, пісалі літаратуру і публіцыстыку, ізноў пілі.

— ***А Вам прыходзілася на ўсё гэта глядзець і працаваць у той жа самы дзень, з раніцы з журналістам, апоўдні ўжо з тым самым пісьменнікам. Як Вы гэта вытрымлівалі?***

— Бяда ў тым была, што не хапала адукаваных людзей, якія ўвогуле маглі б пісаць спраўна па-беларуску. Было цяжка ўвогуле з людзьмі з вышэйшай адукацыяй. Таму ў дачыненні да журналістаў трэба было выпраўляць памылкі і крэсліць, крэсліць, крэсліць. І паўтараць: вучыцеся, вучыцеся, вучыцеся. А паэтам і празаікам даваў я поўную волю. Калі я моцна нерваваўся, то стараўся маўчаць. А ў думках абяцаў, што зараз зыду з рэдакцыі і пайду працаваць слесарам.

— ***Ну, але Вы прынамсі мелі моцную маральную падтрымку з боку беларускіх пісьменнікаў з Беларусі, якія дацэньвалі беларускае слова з Беласточчыны.***

— Так. З многімі мы сустракаліся, яны наведвалі рэдакцыю і ў нас друкаваліся. Янка Брыль, Максім Танк, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк заўсёды пра нас памяталі.

— ***А зараз каго Вы для сябе прачытваеце?***

— Чытаю яшчэ сам, але для мяне зараз таксама чытаюць жонка і дачка. Я вельмі люблю Ясеніна і, калі выйшаў з бальніцы, то папрасіў у жонкі, каб перачытала ягоны верш „Дай, Джим, на счастье лапу мне...". Некаторыя любімыя вершы ведаю на памяць. А на стале зараз у мяне паэзія Алеся Барскага і ўласная кніга „У каменным крузе".

— ***Калі б Вы, як вопытны рэдактар, рыхтавалі зараз да друку анталогію беларускай літаратуры ў Польшчы, якія далі б ёй назоў?***

— Толькі коратка — „Белавежа".

— ***А на вокладцы?***

— Белавежская пушча летам і толькі раніцай.

— ***А чаго не хапае нашай літаратуры на Беласточчыне?***

— Не хапае дубоў...

— ***Дзякуем за размову.***

**Гутарыў Яўген ВАПА**





# Шматгаловы цмок

Заўважаю апошнім часам, што людзей у інфармацыйнай прасторы цікавяць пераважна тры з'явы на „с" — секс, спорт і смерць. Так ці інакш інтарэс абывацеля круціцца пераважна вакол гэтых трох тэм. Пацвярджае гэта просты аналіз найбольш чытаных матэрыялаў на інтэрнэтных старонках. На мінулым тыдні ў цэнтры ўвагі апынулася смерць камандантэ Баліварыянскай Рэспублікі Уга Чавеса. Калі смерць якога-небудзь чалавека выклікае такую буру эмоцый, гэта сведчыць пра выразна нездаровую рэакцыю. Насамрэч, заканчэнне зямнога шляху венесуэльскага кіраўніка выклікала ў адных прыпадкі істэрычнай жалобы, а ў іншых непрыхаваную радасць. Абедзве рэакцыі сведчаць як пра нездаровае ўспрыманне гэтай асобы, так і пра заганнасць чалавечай прыроды. Уга Чавес не прынёс нічога новага ў гэты свет. Ён быў зацятым, і напэўна шчырым апалагетам левай ідэі, утапічнай ідэі сацыяльнай роўнасці, як і мноства ягоных папярэднікаў, якіх было нямала ў свеце ўвогуле, і на лацінаамерыканскай зямлі ў прыватнасці. Для многіх насельнікаў Венесуэлы ён быў бацькам, чалавекам, які падмяніў сабой Бога і стаўся чарговым ідалам. З яго смерцю для гэтых людзей надышла асабістая трагедыя. Плачучы па правадыру, яны плачуць па сабе, бо няўпэўненыя, што дзяржава і надалей накорміць іх, дасць веру ў „светлую будучыню".

Венесуэла з яе надзвычай спрыяльным прыродным кліматам і багатымі радовішчамі нафты магла б стаць адной з самых заможных на кантыненце. Аднак, насамрэч была і ёсць адной з бяднейшых у Паўднёвай Амерыцы. Левая ідэя спараджае не толькі эфемерную прагу да ўсеагульнай роўнасці, не толькі імкненне да татальнай экспрапрыяцыі, але і адбівае жаданне працаваць, выбівацца ў больш заможныя, развітыя. Яна спараджае паразітызм, звычку да таго, што дзяржава мусіць забяспечыць чалавека ўсім патрэбным, што гэта яе святы абавязак. Чавес сапраўды быў больш справядлівы за сваіх папярэднікаў. Ён даў гэтую класічную мінімальную базу бальшыні жыхароў сваёй краіны — хлеба і відовішчаў. За Чавесам венесуэльцы ўжо не галадалі, а відовішчы ў выглядзе найперш шматгадзінных палымяных прамоў забяспечваў таксама сам камандантэ. А зараз гарантыі, што дзяржава гэта будзе прадстаўляць і надалей няма — ідал памёр, вось і плачуць.

Уга Чавес шчыльна сябраваў з кіраўнікамі Кубы, Ірана, Беларусі, Расіі. Дружба гэтая была досыць дзіўнай і нават парадаксальнай, бо нармальнае сяброўства зазвычай грунтуецца на еднасці поглядаў, ідэалаў, каштоўнасцей. Тут жа асноўным грунтам, сутнасцю сяброўства была нянавісць, найперш антыамерыканізм. Бо што яшчэ магло яднаць антыімперыяліста Чавеса і наскрозь імперскі Крэмль, які прагне аднавіць сваю „турму народаў"?! Што магло яднаць Чавеса, які любіў публічна хрысціцца з апантаным ісламскім фанатыкам Ахмадзінежадам?! Хіба толькі неўміручы Фідэль з „вострава свабоды" быў венесуэльскаму кіраўніку сапраўды блізкі ідэалагічна.

Смерць венесуэльскага рэвалюцыянера выклікала і амаль істэрычную радасць у вялікай колькасці людзей. Рэакцыя беларусаў у сацыяльных сетках была проста бурлівай. Радавацца смерці чалавека — ненатуральна, растлумачыць гэта можна толькі падсвядомым імкненнем пазбавіцца ад несвабоды, „дыктатуры пралетарыяту", свайго пажыццёвага правадыра. Маўляў, чарговы дыктатар пайшоў „туды". Людзі, нават досыць адукаваныя і разумныя, чамусьці вельмі персаніфікуюць зло. Але ж „тры галавы ўпала, а колькі новых вырасла" — як казаў літаратурны персанаж класічнага твора. Крыважэрныя „бацькі народаў" Ленін і Сталін жывыя, пакуль у Крамлі хаваюць гістарычную праўду пра іх злачынствы і адраджаюць СССР, „Вялікі кормчы" Кітаю жывы, пакуль „калектыўны Мао" сядзіць у Пекіне і будуе „развіты сацыялізм". Павешаны Хусейн жывы ў Іраку, замардаваны Кадафі жыве ў Лівіі пакуль у гэтых краінах масава здзяйсняюць тэрарыстычныя акты і квітнее нянавісць да людзей. „Цмок" гэты шматгаловы, разнастайны, хітры і часта прыхаваны.

Так што ўсё толькі пачынаецца...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Гадзючыя рысы шаленства

Чалавецтва турбуе прыхаванае шаленства. Яно мае пераменны характар. Праяўляецца або паслабляецца. Ніколі, аднак, не мінае да канца. Яго магчымасці велізарныя. Пашыраецца ад вытокаў чалавецтва да нашых дзён. Пачынаецца ад агульнага знішчэння неандэртальцаў і далёка не спыняецца на міжплемянным канібалізме homo sapiens. Гэта на яго плане падымалі асвенцімскія коміны смерці. Гэта з-за яго рухнулі нью-ёркскія вежы. Вар'яцтва мае неадназначны твар. Раз паказваецца ў не да канца вызначанай велічы зла і жорсткасці. У іншы раз — у штукарскай фігуры. Але ідэальна размешчана ў адной і другой форме. Раз ашарашвае пагромам катоў, якія ў сярэдневяковіі былі абвінавачаны ў спрыянні вядзьмарству і амаль пабіты камянямі да апошняга. Смешыць калектыўным танцам, які ў адзін час у 1374 годзе авалодаў пяццю сотнямі жыхароў Кёльна, у горадзе Мец — больш за тысяччу. Выяўляецца па-рознаму. Упарта праяўляецца і ў вераломных пропаведзях у імя Хрыста святароў заражаных педафільствам. У крывадушнасці іхніх начальнікаў. Паказваецца ў модным трэндзе бяздумнага атэізму, які бессэнсоўнай балбатнёй парушае яго рацыянальную аснову. Яно прысутнічае ў маладзевых прыколах польскіх антыглабалістаў, а таксама ў апартунізме беларусаў у адносінах да лукашэнкаўскага сатрапства. Ці паказвае сапраўдны твар, ці хаваецца пад гратэскныя маскі. У Камбоджы, дзе яно з'явілася ў макіяжы чырвоных кхмераў — паслядоўнікаў утапічнага камунізму — прывяло да гібелі мільёнаў людзей. Не менш ахвяр міжплемянных бойняў паслужылі ўгнаеннем для ворных палёў у Руандзе. Там вар'яцтва паказалася без маскі, агаляючы гадзючыя рысы чалавецтва. Не менш шакавальную морду прадставіла яно ў Дарфуры і цяпер паказвае ў Сірыі. Дзесяцігоддзямі вар'яцтва знішчае паўночнакарэйскі народ. У Польшчы, пад прэзідэнцкім палацам успыхнула дакучлівым абажаннем «смаленскага крыжа», які пачаў адкрытую польска-польскую вайну. Гэтая вайна працягваецца. Гэта выяўляецца ў аплёўванні Туска, абсморкванні Качынскага, у беспрэцэдэнтным баранні гэтых двух паноў за ўладу. У расстройванні дзяржавы. У безгалоўі палітыкаў і чыноўнікаў. У невыхаванасці грамадства. І, нарэшце, каб каму не здавалася, што вар'яцтва мае толькі перыферычнае вымярэнне, успомню ўсеагульнае на зямным шары чаканне апакаліптычнага разбурэння свету ў 2012 годзе.

Сучасная цывілізацыя хворая. Асноўваецца на інтэлігентнасці агульнасці, якая праяўляецца не сумай асобных людзей, але IQ найдурных з іх. А яна не кіруецца розумам і логікай, толькі такімі ж прымітыўнымі эмоцыямі. Яна заражае ўсіх вакол сябе. Вось чаму чалавечыя калектывы аддаюцца трызненням, галюцынацыі, паніцы, істэрыі і крайняй экзальтацыі, якая часта ператвараецца ў сляпую лютасць. Яго разбуральны імпэт адбіваецца глыбокім крызісам на цэлых генерацыях людзей. Можа таксама назаўжды адціскацца на псіхіцы цэлых пакаленняў людзей. Грамадстваў. Нацый. Калектыўны псіхоз выбухае супраць рацыяў розуму. Раптам. І мала хто патрапіць супрацьстаяць яму. Калі справа даходзіць да пакаяння, ужо нічога немагчыма выправіць. Нічога не ажывіць. Ёсць толькі пагарда, пачуццё агіды і жадання адпомсціць. Гэта несмяротныя эмоцыі. Тлеюць яны пастаянна пад прыкрыццём пажарышч і попелу. На працягу многіх гадоў, а часам і на працягу стагоддзяў. Не трэба шмат, каб разгарэўся новы агонь. Хопіць паклёп. Слых. Адно слова. Не так даўно агучанае польскімі СМІ забойства габрэяў у Ядвабным дало ў выніку падвоеную актыўнасць расцярушаных да гэтага часу нацыяналістычных рухаў, фашысцкіх, расісцкіх. Ужо яны звязаны адзін з адным сакрэтным пагадненнем. Ужо вылучаюць наперад сваіх тэарэтыкаў і ідэолагаў. Іх мілыя, інтэлігентныя твары ўсё часцей і часцей з'яўляюцца на тэлебачанні. Прыбывае іхніх ціхіх прыхільнікаў, якія гатовыя чытаць пра іх у газетах. Гэтаму вар'яцтву паддаюцца журналісты. Праводзяць з імі некрытычныя інтэрв'ю. Друкуюць іх. Атрымліваюць шчодрыя прэміі ад выдаўцоў, таму што павялічваецца тыраж часопісаў. Толькі што здаровы шрыфт друку пачынае тачыць атрутны чарвяк злаваснай рыторыкі, кульгавых аргументаў, шызафрэнічных рацый, псеўдапатрыятычных тырад. Хіба некаму гэта штосьці нагадвае? Няўжо ніхто не мае свядомасці, што псіхоз, які выліўся ў Ядвабным, не вычарпаўся на згвалтаванні скіта айца Гаўрыіла? Ці ведаюць аб гэтым палітыкі, што таксама з розуму сышлі?

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Віза за білет



— Здарылася штосьці асаблівае. Больш за год працягваліся намаганні, каб мы маглі мець у прапанове такі культурна-турыстычны прадукт. І ёсць, — не хаваў свайго задавальнення дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі (ПОіФ) Раберта Скальмоўскі падчас прэс-канферэнцыі папярэджваючай прыбыццё 6 сакавіка групы са 150 чалавек з Беларусі, якія, каб прыехаць у Беласток узамен за бясплатную візу купілі білет у яго ўстанову. У пакеце, які прапаноўвае пяць турыстычных агенцтваў, акрэдытаваных пры польскіх консульскіх установах на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, у дадатак да білета ПОіФ гарантавана пражыванне ў гасцініцы са сняданкам (стандарт гатэля на выбар) і наведванне Беластока, у тым ліку Падляшскага музея.

Самы танны, двухдзённы пакет каштуе каля 50 еўра, што танней, чым абавязковая турыстычная віза (60 еўра), за якую плацяць беларусы, калі падарожнічаюць у Польшчу.

— Мы задаваліся пытаннем як зрабіць, каб тыя, хто прыязджае ў Беласток за пакупкамі, таксама заглянулі ў оперу, — кажа дырэктар Скальмоўскі. — Я добра памятаю той час, калі мы, палякі, ездзілі за пакупкамі ў Берлін і Гёрліц. Ніхто нам тады не прапанаваў, каб мы пайшлі ў такі храм, якім з'яўляецца опера. Але мы ўжо можам прапанаваць гэта нашым гасцям з Усходу. Мы запрашаем іх у оперу, мы дапаможам у многіх пытаннях, турысты правядуць тут ноч, пакінуць грошы ў крамах, рэстаранах.

Паводле яго інфармацыі, у рамках прапановы «Віза за білет», Опера і філармонія ўжо зарэзервавалі больш чым 12 тысяч месц, і, верагодна, да канца гэтага года іх колькасць дасягне 20 тысяч.

— Вядома, у рамках такога пакета ёсць таксама магчымасць для пакупак. Зразумела, што турысты захочуць пахадзіць па крамах, — не хаваў падчас прэс-канферэнцыі Яўген Лаўранюк, старшыня Беластоцкага філіяла Польскай турыстычнай палаты.

Звярніце ўвагу! Консульства ў выпадку падачы заяўкі на бясплатную візу патрабуе пацвярджэння арыгінала білета ў оперу. Турыстычныя офісы, заяўляючыя групы, павінны запаўняць ваўчары толькі ў электронным выглядзе.

Гэты новы прадукт культурнага турызму ПОіФ таксама ажыццяўляе сумесна з мытнай службай, якая ўвяла пры нагодзе нейкія спрашчэнні пры афармленні такіх груп, мэта якіх — максімальнае скарачэнне часу пагранкантролю, па ўзоры вопыту на польска-ўкраінскай мяжы ў час Еўра-2012.

— У адзін час, у адным месцы ў аўтобусе кантроль правядуць дзве службы: польскі памежнік і польскі мытнік. У гэтым выпадку час праверкі і кантролю, з больш чым паўгадзіны, будзе скарочаны да васьмі хвілін. Вядома, на час кантролю на беларускім баку не маем уплыву. Але мы пагаворым пра гэта — ужо 12 сакавіка будзе праведзена нарада чатырох службаў: польскіх Памежнай і Мытнай службаў і такіх жа беларускіх, — растлумачыў на прэс-канферэнцыі надінспектар Міраслаў Сянкевіч, дырэктар Мытнай палаты ў Беластоку, адказваючы на пытанне «Нівы» ці быў дасягнуты кансенсус аб спрашчэннях пры перасяканні мяжы, у дадзеным выпадку з беларускім бокам.

Дадаў:

— У выпадку аўтобусаў з турыстамі, якія едуць у оперу, павінен быць атрыманы загадзя спіс пасажыраў. Такім чынам, дзякуючы нашай базе дадзеных, мы можам праверыць, ці хто-небудзь у спісе не меў ужо справы з кантрабандай. Паведамляем турыстычныя агенцтвы, што калі дойдзе да кантрабанды, штраф будзе ўтрая больш, чым звычайна. Перавоз хаця б трэцяй пачкі цыгарэт звыш нормы пагражае штрафам больш чым за 500 злотых.

З дадзеных Мытнай палаты ў Беластоку вынікае, што ў мінулым годзе замежнікі, якія перасякалі польска-беларускую мяжу, набылі ў Польшчы тавараў на каля 800 мільёнаў злотых. Кошт набытых тавараў быў на 137 мільёнаў больш, чым у 2011 годзе. Мытнікі лічаць, што большасць з гэтых тавараў была набытая ў Падляшскім ваяводстве. Да ўвядзення ў сваёй прапанове прадукта «Віза за білет» намераецца таксама Драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# На роднай мове бабулям і дзядулям





**Дзеткі з першага па трэці клас Падставовай школы ў Дубінах адважна і займальна выступілі на роднай мове перад сваімі бабулямі і дзядулямі ў час святкавання ў іх гонар. Вучні рыхтаваліся да выступаў на ўроках беларускай мовы, на якія ходзіць якраз палова вучняў згаданых класаў.**

Вельмі важным быў выступ для першакласнікаў, якія толькі з верасня мінулага года пачалі вучыцца па-беларуску, а ўжо навучыліся многім словам на літаратурнай мове. У размове дзеткі падкрэслівалі, што менавіта бабулі і дзядулі найчасцей гавораць да іх па-свойму. У час урачыстасці адзін дзядуля, узрушаны займальнымі выступамі маладзенькіх акцёраў, стаў уголас дэкламаваць верш Віктара Шведа, напісаны для дзетак. Бабулі і дзядулі ў час пачастунку размаўлялі паміж сабою на мясцовай гаворцы, а са мной некаторыя сталі гаварыць на беларускай літаратурнай мове. Жадаюць яны, каб і іх унукі навучыліся так размаўляць.

— У мяне ёсць шэсць унукаў і ўсе хадзілі на заняткі беларускай мовы. Сёння па-беларуску выступаў наймалодшы з іх, Матэвуш. Ён выхоўваецца без бацькі, які памёр маладым. Мы ж беларусы і не павінны забываць сваёй мовы. Вельмі прыемна паглядзець як дзеткі выступаюць на сваёй мове, па-беларуску, — заявіла Юлія Пуцінік з Барысаўкі, ураджэнка Ляўкова, якая ў падставовай школе таксама вучылася беларускай мове. Яе ўнук Матэвуш пасля дадаў, што дома з бабуляй вучыцца гаварыць па-свойму.

— Я проста захоплена выступам сваёй унучкі Патрыцыі, якую я стала вучыць дома гаварыць па-свойму. Добра, што дзеткі хочуць вучыцца нашай мове і падтрымліваюць традыцыі, — заявіла Зіна Пракапчук з Дубін.

Дзядуля Андрэй Стасінкевіч, які прыбыў з Сарочай Ножкі, таксама пахваліў дзетак за тое, што выступілі на роднай мове.

— Мне вельмі падабаюцца ўрокі беларускай мовы, падчас якіх мы слухаем цікавых аповедаў і многа вучымся гуляючы, — скажа пазней Патрыцыя Пракапчук.

Вучні запрэзентаваліся перад бабулямі і дзядулямі з багатай праграмай. У пачатку сустрэчы павіншавалі сваіх бабуль і дзядуляў са святам і падаравалі ім выкананыя ў школе альбомы і прыгожыя кветкі з тонкай паперы. Андрэй Галёнка прыехаў ажно з Асоўкі Чыжоўскай гміны на запрашэнне сваёй унучкі Дагмары Нівінскай і пачуў ад яе цёплыя словы са шчырымі пажаданнямі.

Дзеткі з першага па трэці клас выступалі супольна. Прыгожа заспявалі яны беларускія песні, прадэкламавалі па-беларуску вершыкі, падбіралі словы, характэрныя для бабуль і дзядуляў, і перш за ўсё паказалі многа гульняў, якія ведаюць з урокаў беларускай мовы. На беларускай мове запрэзентавалі многа забаўлянак. Цікавым атрымаўся паказ беларускай народнай вопраткі. Адна гімназістка прачытала сабраным выказванне нашага пісьменніка Васіля Петручука аб мясцовым патрыятызме.

— Першы раз у нашай школе мы наладзілі святкаванне ў гонар бабуль і дзядуляў з беларускім рэпертуарам. Раней нашы дзеткі выступалі па-беларуску ў час «ёлак», ці «куцці». На мерапрыемства мы запрасілі бабуль і дзядуляў усіх дзетак з пачатковых класаў. Я падумала, што можа пад уздзеяннем цікавых выступаў па-беларуску хаця некаторыя з тых, якіх унукі не ходзяць на заняткі беларускай мовы, паспрабуюць заахвоціць сваіх малечаў і іх бацькоў запісаць дзетак на беларускую мову, — заявіла настаўніца беларускай мовы Ніна Куптэль, пад наглядам якой падрыхтаванае было школьнае мерапрыемства. Патлумачыла яна, што святкаванне спозненае з-за зімовых канікулаў і гарачага студзеньскага перыяду ў школе, калі вучням трэба ставіць семестравыя ацэнкі.

У беларускім мерапрыемстве прынялі ўдзел усе дзеткі з пачатковых класаў. Пазней дзеткі, што не ходзяць на заняткі беларускай мовы, на польскай мове расказвалі за што любяць сваіх бабуль і дзядуляў. За цікавымі выступамі сваіх вучняў сачылі настаўніцы пачатковага навучання, якія дапамаглі арганізаваць сустрэчу. Захапляліся яны акцёрскімі здольнасцямі сваіх дзетак, з якімі займаюцца штодзень.

— На жаль, на мерапрыемстве не магла быць наша дырэктар Комплексу школ у Дубінах Аліна Гіншт, якая прымае ўдзел у абучэнні, — сказала настаўніца Ніна Куптэль.

— Як добра, што дзеткі падтрымліваюць нашыя традыцыі. Мабыць, гэта бабулі і дзядулі спачатку вучаць нашым традыцыям і заахвочваюць вучыцца па-беларуску. Настаўніца беларускай мовы Ніна Куптэль мусіла многа працы ўкласці і праявіць цярплівасць, каб падрыхтаваць дзетак да такога прыгожага выступу, — гаварыла Анна Новік са Звадзецкага, якой унучка Ганка Новік падарыла прыгожую кветку і альбомчык з пажаданнямі. Раней спадарыня Анна, так як і іншыя бабулі і дзядулі, атрымала запрашэнне, аздобленае арнаментам з беларускага ручніка.

Сустрэчы з унукамі радавалася таксама Вера Кураш з Васількова, якой спадабаліся выступы наймалодшых, зычлівыя адносіны настаўнікаў і мілая атмасфера ў школе ў Дубінах. Да бабуль і дзядуляў заглянуў пасля выступаў протаіерэй Анатоль Ярмоцік, вікарны святар праваслаўнага прыхода ў Новым Беразове, які ў школе ў Дубінах вучыць Божаму закону. З радасцю адзначыў ён, што ўсе праваслаўныя дзеткі ходзяць на яго заняткі, у час якіх таксама вучацца мясцовым традыцыям.

— Мае ўнук і ўнучка ходзяць на заняткі беларускай мовы і я рады, што магу сёння паглядзець як яны прыгожа выступаюць па-беларуску. Трэба ж, каб наймалодшыя вучыліся сваёй мове, — сказаў Сцяпан Садоўскі, павятовы радны і заадно член Управы Гайнаўскага павета. Яго ўнук Філіп Кот пасля дадаў, што са сваім дзядулем вучыцца гаварыць на мясцовым дыялекце.

— На ўроках беларускай мовы настаўніца расказвае нам казкі і мы вучымся гаварыць па-беларуску. А ў будучыні можа пойдзем вучыцца ў беларускую школу ў Гайнаўку, — дадала Малгося Кот, якая разам з братам Філіпам выступіла перад сваім дзядулем Сцяпанам.

Мае малыя суразмоўцы пасля выступаў перад бабулямі і дзядулямі расказалі пра ўрокі беларускай мовы з настаўніцай Нінай Куптэль.

— Мне вельмі падабаюцца ўрокі беларускай мовы, у час якіх мы вывучаем вершыкі. Пані расказвае нам казкі і прапануе розныя гульні, — сказала Юлія Масайла. Яе бабуля Зіна радавалася, што яе ўнучка вучыцца беларускай літаратурнай мове, бо яна сама не мела такой магчымасці.

— Нам на ўроках беларускай мовы падабаюцца гульні з мядзведзем, з выцягваннем рэпкі, а хлопцы любяць гульню ў пеўняў, — заявіў Себасціян Секан. Вераніка Ігнацюк дадала, што любіць на занятках беларускай мовы спяваць і маляваць, а Дам'яну Возняку падабаецца як настаўніца Ніна Куптэль вядзе ўрокі.

— Я люблю выступаць у прадстаўленнях, спяваць па-беларуску, слухаць казкі. Я рады, што вучуся ў прыгожай школе, — гаварыў Міхал Гіншт, які жыве ў Гайнаўцы.

У школьным будынку ў Дубінах знаходзяцца прыгожыя класныя кабінеты. Тут вельмі добрыя ўмовы для адукацыі. Вучні займаюцца ў новазбудаванай спартыўнай зале, па-сучаснаму абсталяванай камп'ютарнай зала, дзеткі карыстаюцца прыгожай сталовай. У Дубінах беларускай мове вучыцца 48 дзетак у падставовай школе і каля 40 вучняў у гімназіі. У адным класе ў гімназіі беларускай мове вучыць Ева Герасімюк, а ва ўсіх апошніх класах у школе заняткі беларускай мовы вядзе Ніна Куптэль. Каб заахвоціць дзетак роднай мовай, трэба быць актыўным настаўнікам.

— Я на занятках беларускай мовы стараюся зацікавіць вучняў прадметнымі конкурсамі, конкурсам «Пазнай Беларусь», заахвоціць да ўдзелу ў дэкламатарскім конкурсе «Роднае слова» і ў «Беларускай гавэндзе». Нашы вучні купляюць «Ніву», а найбольш чытачоў маем у пятым класе. Вучні вельмі любяць крыжаванкі, ахвотна чытаюць вершыкі ў «Зорцы». Старэйшым вучням я раблю агляд «Нівы». Звяртаем увагу на артыкулы пра жыццё беларусаў у Польшчы, гаворым пра беларускія арганізацыі, асабліва пра літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», разглядаем гістарычныя тэмы, — сказала настаўніца Ніна Куптэль.

Вучні Комплексу школ у Дубінах, якія ходзяць на заняткі беларускай мовы, ездзілі тры разы ў Цэнтр адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, дзе глядзелі спектакль «Малая пасія». Марыя Нічыпарук вучыла дзетак выконваць кветкі з тонкай паперы і народныя выцінанкі, а Зоя Майстровіч вучыла саломапляценню. У святліцы ў Дубінах навучэнцы беларускай мовы глядзелі спектаклі, падрыхтаваныя пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц, спаткаліся з паэткай Мірай Лукшай. Вучні ездзілі ў Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, дзе пабывалі на дакладзе пра мясцовыя гаворкі доктара Васіля Сегеня, іх земляка, родам з Трывежы. Пазнаёміліся таксама з Музеем малой айчыны ў Студзіводах і з яго старшынёю Дарафеем Фіёнікам наведалі Гацькі, Райск і Ягуштова.

— Пасля, на занятках, мы размаўляем пра нашыя выезды, выконваем працы спалучаныя з імі. Перад спатканнем з Мірай Лукшай мы чыталі яе творы і выконвалі ілюстрацыі да іх. Ходзім з дзеткамі гуляць на школьным панадворку, арганізую ім гульні ў класе, асабліва наймалодшым дзеткам, якія патрабуюць асаблівай актыўнасці. Побач адукацыйных гульняў і забаўлянак на беларускай мове прапаную ім нават гульню ў жмуркі, — расказвала Ніна Куптэль. — Пра беларускую мову гаварылі мы пры нагодзе святкавання Міжнароднага дня роднай мовы. У школе былі насценгазеты, прысвечаныя Сакрату Яновічу і іншым нашым пісьменнікам. Фрагменты гуказапісу кніжкі «Птушкі без гнёздаў» Ларысы Геніюш хачу выкарыстаць са старэйшымі вучнямі да дыскусіі аб нашай малой айчыне і нашых суадносінах з Беларуссю.

## Перш за ўсё чытаю фельетоны

Мінула ўжо некалькі месяцаў ад хвіліны, калі ўвесь мой свабодны час займае пісанне, а не стварэнне, камп'ютарнай праграмы. Дайшло да таго — не ўспамінаючы пра наракання жонкі, што нібыта ёсць мужчына ў хаце, а папраўдзе яго няма — што не толькі днём, але і ў сне разглядаю нейкія невырашальныя на той або іншы час праблемы.

Доктары кажуць, што такое хобі якраз узмацняе нервы ў асоб узросту 70+. Адны запаўняюць крыжаванкі па вертыкалі і гарызанталі словамі, якія даўно адышлі ў нябыт, другія ўспамінаюць мінуўшчыну і ўсё добрае, што ўжо мінула і не вернецца. Мне, як бы працягваючы актыўны час, захацелася сядзець, а гэтага ўжо дактары не пахваляюць, і пісаць нейкія алгарытмы ў адпаведнасці не толькі з логікай, але і электроннай тэхнікай.

Занядбаў я не толькі хатнія абавязкі. Калісь чытаў «Ніву» і «Часопіс» як кажуць ад дошкі да дошкі, у той самы дзень, калі паштальён іх дастаўляў, або на другі дзень. Цяпер чытаю ад экрана да экрана, а то таму, што па інтэрнэце часамі чытаю выданні «Часопіса».

У «Ніве» перш за ўсё чытаю тры фельетоны на другой старонцы, і то не за адзін прысест. Потым шукаю на старонках цікавых тэкстаў з нейкімі думкамі. Такіх разынкаў наогул, на жаль, няма. Пэўна, ёсць досыць дэталёва апісаныя розныя фестывалі ці іншыя культурныя мерапрыемствы. Для будучых даследчыкаў культурнага жыцця беларусаў усходняй Беласточчыны будзе гэта добрая крыніца для напісання навуковай працы. А што мне, чытачу, які не мае замнога часу па прычыне пісання камп'ютарных праграм, чытаць зараз? Так званыя рэпартажы вандроўца-пешахода маглі б мяне зацікавіць, калі б у іх паявіліся канкрэтныя людзі, жыхары мястэчак і вёсак разам з іх думкамі, штодзённымі праблемамі і турботамі. Думаю, што не толькі для мяне было б цікава даведацца як жывуць нашы беларусы, але і для будучых этнографаў гэта была б важная крыніца ведаў.

Адным словам, калі ўжо пішу пра нейкія пажаданні адносна тэкстаў у «Ніве», то хацелася б больш змястоўных артыкулаў, а не толькі адной інфармацыі і інфармацыі. Адзін Буйнюк ці Юрка Ляшчынскі вясны не робяць.

А так, пры нагодзе, калісь, калі я вучыўся беларускай мове, вялікім дапаможнікам на ўроках была «Зорка». У ёй друкаваліся апавяданні, вершы, казкі і іншыя тэксты, звязаныя з праграмай навучання. А як зараз?

**Міхась КУПТЭЛЬ**

## І ў Элку чытаюць „Ніву"

У панядзелак зранку пазваніў тэлефон. — Ці гэта пан Сідарук? — Так. — Гэта вы, здаецца, пішаце ў „Ніву"? — пачуўся сімпатычны голас у трубцы. — Маё прозвішча Алексяюк. З Чаромхі выходжу, а жыву ў Элку. Ад сястрыцы ў Чаромсе я даведаўся, што ў Чаромсе „спалярню" хочуць адкрыць. Людзі хвалююцца... Напішыце пра гэта ў „Ніву".

— Тэма мне вядомая, — супакойваю. — Я ўжо аб гэтым пісаў.

— А я штосьці не прыкмеціў. „Ніву" кожны нумар чытаю. Гадаваю падпіску раблю...

— Аб гэтым у мінулым годзе я пісаў, — кажу („Чарамхоўскія супярэчнасці" — „Ніва" ад 25 лістапада 2012 г.). І тут жа я свайму субяседніку асвятляў як справа з заводам па спальванню камунальных адходаў на сённяшні дзень маецца.

Мілай і сяброўскай атрымалася размова. Прыемна пачуць карэспандэнту, што яго допісы знаходзяць зразуменне ў чытачоў, затым чуюцца станоўчыя водгукі. Лічу, што ў краіне такіх чытачоў і сімпатыкаў як Віктар Алексяюк „Ніва" больш мае.

**Уладзімір СІДАРУК**

# У імя талерантнасці і пашаны

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

**Фонд „Рэгіянальны цэнтр культуры польскіх татараў АСМАН", крушынянская татарская супольнасць і Джанэта Багдановіч з „Татарскай юрты" ў Крушынянах рыхтуюцца да чарговага, сёмага ўжо выпуску „Сабантуя" — татарскага свята плуга.**



У цэнтры гаспадыня сустрэчы Джанэта Багдановіч

Гэтае мерапрыемства вядомае не толькі ў нашым ваяводстве, але і далёка па-за яго межамі. У час татарскага свята звычайна бязлюдная, крушынянская вуліца перамяняецца у сапраўдную, лонданскую Оксфард стрыт. Земляробчы матыў выдатна ўпісваецца ў мясцовы, амаль выключна сялянскі, характар бліжэйшага наваколля. Ад вякоў зямля з'ядналася асноўнай карміцелькай так татарскага, як і хрысціянскага насельніцтва ўсіх падкрынскіх вёсак. Перад, у час і пасля палявых работ маліліся яны да адзінага Бога. Кожны звяртаўся да Яго па-свойму: хто па-польску, хто па-арабску, хто па-руску. У большасці вёсак можна было спаткаць таксама узбагачаючых мясцовы каларыт вызнаўцаў Майсеевай веры, якія можа не непасрэдна, але мелі ўплыў на якасць сялянскай працы сваіх аднавяскоўцаў. Атмасфера шматлюднай, працавітай і разнароднай па мове і традыцыі падкрынскай вёскі асабліва ўваскрэсне ў час сёлетняга „Сабантуя", які адбудзецца ў суботу 18 траўня. Мерапрыемства ў гэты раз пяройдзе пад лозунгам „Фестываль смакаў аднаго Бога — малітва за мір і справядлівасць у свеце". Святкаванне прыме форму грамадска-медыйнай кампаніі ў карысць талерантнасці і пашаны для нацыянальных і рэлігійных меншасцей Падляшша. Маштаб акцыі плануецца сапраўды шырокім, таму грунтоўная падрыхтоўка ўжо пачалася. З гэтай нагоды 4 сакавіка ў крушынянскую „Татарскую юрту" Джанэты Багдановіч з'ехаліся, між іншым, прадстаўнікі ўлад Падляшскага ваяводства, на чале з віцэ-маршалкам Казімежам Башко, каб абмеркаваць галоўныя тэмы планаванага мерапрыемства. У ліку прысутных апынуліся і запрошаныя да супрацоўніцтва прадстаўнікі нацыянальных меншасцей. Адказнасць за прэзентацыю беларускай спадчыны рэгіёна ўзялі на сябе старшыня культурнага аб'яднання „Тэрра інкогніта" ў Крынках Іаанна Чабан і дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Гарадку Юрка Хмялеўскі. Польскі акцэнт у мерапрыемства ўнясуць працаўнікі дома культуры ў Кнышыне. Ад імені яўрэяў на згаданай сустрэчы выступіла прадстаўніца яўрэйскай супольнасці ў Варшаве на Беласток і Падляшша Люсі Лісоўская. Апрача галоўных арганізатараў — татараў — у падрыхтоўчай дыскусіі прынялі ўдзел прадстаўнікі Крынскага надлясніцтва і Кавалерыйскага эскадрона імя 10-га Палка літоўскіх уланаў. Як падкрэсліла вядучая сустрэчу спадарыня Джанэта, традыцыя „Сабантуя" звязана перш за ўсё з праяўленнем радасці ад пасеяных палёў. Здаўна татары ў гэты час спраўлялі супольныя гульні і ладзілі пачастункі на свежым паветры. Гэты фестываль быў створаны з думкай аб адраджэнні і ўмацаванні сямейных сувязей. У гэтым годзе апрача матыву сямейнай ці монакультурнай інтэграцыі вельмі важнай будзе справа збліжэння ўсіх веравызнанняў і традыцый нашага ваяводства. Удзельнікі сустрэчы займаліся пошукам спосабаў на самае лепшае падкрэсленне міжнацыянальных сувязей і супольнасці, не забываючы пра дбайнасць аб добрае аблічча кожнай з удзельнічаючых у мерапрыемстве нацый. Як падкрэсліла Галена Марцінкевіч з дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, пазітыўныя адносіны паміж народамі грунтуюцца перш за ўсё на ўзаемапазнанні. Таму неабходна задбаць пра высокі ўзровень і разнастайнасць планаваных культурна-адукацыйных прэзентацый. Ужо самая падрыхтоўчая сустрэча для яе ўдзельнікаў стала сапраўдным майстар-класам ведаў аб традыцыях суседзяў. Выпадае толькі спадзявацца, што крушынянскае свята плуга дапаможа жыхарам нашага рэгіёна ў пабудове новых і трывалых мастоў узаемнай прыхільнасці і супрацоўніцтва.

# Агульнабеларуская дыктоўка ў Варшаве

**28 лютага 2013 г. а 18-й гадзіне ў Палацы культуры і навукі ў Варшаве пачалася Агульнабеларуская дыктоўка, арганізаваная на працягу некалькіх гадоў у супольнасцях беларусаў па ўсім свеце і ў Рэспубліцы Беларусь. У Варшаве шосты раз дыктоўку правяла арганізацыя Беларуская нацыянальная памяць, якая дзейнічае пад кіраўніцтвам Анатоля Міхнаўца.**

http://bielarus-np.livejournal.com



У гэтым годзе тэкст дыктоўкі чытаў легендарны старшыня Беларускага народнага фронту, адзін з саўдзельнікаў стварэння незалежнай Рэспублікі Беларусь — Зянон Пазьняк. Ён быў, як заўсёды, прывітаны прысутнымі з авацыямі, стоячы.

У гэтым годзе тэкстам дыктоўкі быў другі „Ліст з-пад шыбеніцы", які напісаў вялікі і знакаміты наш зямляк Кастусь Каліноўскі, кіраўнік так званага „студзеньскага паўстання" на беларускіх землях, якое ўспыхнула ў 1863 годзе. Многія бітвы паўстанцаў супраць расейскіх войскаў разыграліся на тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны, недалёка ад такіх мясцовасцей, як Беласток, Вялікія Талочкі каля Кузніцы-Беластоцкай, Страбля, Гарадок, Валілы, Берасцянка (гміна Бельск-Падляшскі), Боцькі, Цехановец, Мілейчычы, Сямятычы.

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны, якая ў цяперашні час знаходзіцца ў Гарадоцкай гміне Беластоцкага павета. Ліст пачынаецца са слоў: «Браты мае, мужыкі родные...", а канчаецца словамі: „... Бо я Табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе".

„Гэтыя словы застаюцца актуальнымі і сёння", — перад дыктоўкай сказаў Зянон Пазьняк. Дыктоўку напісала каля 60 чалавек, сярод якіх большасць складалі беларусы-студэнты — грамадзяне Рэспублікі Беларусь і Рэспублікі Польшча. Але пісалі дыктоўку тасама людзі старэйшыя за студэнтаў.

**Георгі ЗЮЗЯ, Варшава**

■ Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Чарнобыль. Last minute



**Гэта была прэм'ера поўнапамернага спектакля. У параўнанні з папярэднім г.зв. перфарматыўным чытаннем нават назва змянілася. Прадстаўленне ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку цяпер называецца «Чарнобыль. Last minute», бо, як кажа Дана Лукасінская, адаптатарка сцэнічнай версіі кнігі беларускі Святланы Алексіевіч (намінаванай на Нобелеўскую літаратурную прэмію), а таксама літаратурны кіраўнік «Вянгеркі», стваральнікі рашыліся на гэты прыём, таму што «яны не робяць дваічнай адаптацыі».**

Адзначыла: — Мы не хочам, каб гледачы былі расчараваны, аглядаючы наш спектакль і спадзеючыся таго, што апынуцца ў ім усе матывы. На сцэне мы паказваем толькі частку чарнобыльскай рэальнасці. Мы не адаптавалі зборніка рэпартажаў Святланы Алексіевіч. У назве «Чарнобыль. Last minute» змяшчаецца запрашэнне да падарожжа. Гэта можа таксама абазначаць «апошнія хвіліны» для тых, хто адпраўляецца ў Чарнобыль. Я думаю, што новая назва адлюстроўвае характар спектакля.

Не толькі назоў адрозніваецца ад прадстаўленага ў перфарматыўным чытанні. Некалькі сцэн былі дададзены, іншыя — выдалены. Крыху іншымі з'яўляюцца сцэнаграфія (нагадвае інтэр'ер рэактара-саркафага) і некаторыя касцюмы. Рэжысёрка спектакля, а таксама дырэктарка беластоцкага Драмтэатра Агнешка Карыткоўская-Мазур перад прэм'ерай (2 сакавіка) заявіла на прэс-канферэнцыі:

— Перфарматыўнае чытанне з'яўлялася свайго роду эксперыментальным палігонам. Цяпер узнік поўнафарматны гатовы спектакль. На сцэне ёсць больш удзельнікаў, мы ўводзім новую фігуру, створаную з трох персанажаў — Антыхор, род падбухторшчыка, які ўводзіць у свет духаў і трох элементаў — зямлі, вады, паветра. Трохі зменены сцэнар. Падмацоўваем тое, што вартае ўвагі, удаскапальваем тое, што здавалася б недастаткова апрацаваным. Перш за ўсё мы змаглі паглыбіць адносіны паміж персанажамі. Напэўна, першы і другі варыянт будуць мець сваіх прыхільнікаў і праціўнікаў.

Спектакль праходзіць зараз больш выразна ў чатырох асноўных планах, з узвышаючымся над астатнімі Хорам Баб (жанчыны з Універсітэта трэцяга ўзросту) на антрэсолі, быццам хор грэцкай трагедыі, які каментуе трагічнае, а часам і ў трагізме гратэскна гучаўшыя расказы герояў: Самасейкі, Чырвонага Партызана, Вар'яткі з Чачні ці Красуні-камсамолкі. Менш чым за паўтары гадзіны спектакля ад цэнтральнай кропкі сцэны б'е па вачах гледачоў пласціна, як зласесная пахаванка: «Чарнобыль: 1986 — ...».

Нагадаем, што кніга Святланы Алексіевіч (пераклад Ежы Чэха) распавядае гісторыю людзей, якія ў момант выбуху на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 26 красавіка 1986 года прымалі ўдзел у выратавальнай аперацыі і былі перасельны пасля катастрофы. Дана Лукасінская:

— «Чарнобыльская малітва» з'яўляецца метафарай крушэння савецкай імперыі ў гэты час і таго, што адбываецца далей — на чалавечай трагедыі, аказваецца, можна зарабіць — у зону пазней арганізуюцца экскурсіі.

Агнешка Карыткоўская-Мазур:

— Чарнобыль — не выдумка, а рэальная гісторыя. Гэта паказвае, чым псіхічна з'яўляецца homo sovieticus — савецкі чалавек. І арганізатары турыстычнага рынку, прапануючы паездкі ў гэтае месца, нажываюцца на чалавечых пакутах. Сёння можна паехаць у Чарнобыльскую зону менш чым за тысячу злотых. Назва мае моцныя адносіны як з прапановай турператараў, так і з апошнімі хвілінамі жыцця людзей.

Для акцёраў беластоцкага Драмтэатра спачатку перфарматыўнае чытанне п'есы, а затым ігранне яе ў поўным памеры выдання гэта новы вопыт. Бернард Баня, які іграе Галоўнага кіраўніка ядзернай экскурсіі:

— Гэты тып працы для нас, акцёраў — сапраўды вельмі цікавы вопыт. Ужо не засяроджваемся на самой форме, збіраем кангламерат індывідуальнасцей у адну цэласць. Паглыбляем адносіны паміж персанажамі.

Дэкарацыі для спектакля падрыхтаваны Мартынай Дваракоўскай, харэаграфія — Мацеем Заклічынскім, музыка — Паўлам Бэтлеем (моўлены па-беларуску фрагмент пераклала Аліна Ваўранюк).

У завяршэнні спектакля выкарыстана 12-секундная заява Аляксандра Лукашэнкі пра будучую пабудову АЭС. Пра гэта было абвешчана падчас візіту прэзідэнта ў рэгіён, які пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Гучыць яна злавесна.

На прэм'еру «Чарнобыль. Last minute» прыехалі з Мінска са зваротным візітам акцёр і галоўны дырэктар Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Ігар Сігаў, рэжысёр і мастацкі кіраўнік РТБД Аляксандр Гарцуеў і шэф Цэнтра беларускай драматургіі пры гэтым жа тэатры Аляксандр Марчанка. Пасля прагляду спектакля ўсе трое былі пад яго вялікім уражаннем. Аляксандр Гарцуеў сказаў нам:

— Перш за ўсё, я ўражаны рэжысёрскім падыходам Агнешкі Карыткоўскай да тэксту і працы з акцёрамі. Тое, што яна зрабіла з прафесійнага пункту гледжання, гэта вельмі крута, вельмі цудоўна, гэта еўрапейская форма, якой, мабыць, недзе нам не хапае. Гэта зацікавіла мяне да такой ступені, што я запрапанаваў ёй, каб паказала гэты спектакль у нашым тэатры. І гэта адбудзецца. Мабыць, не вельмі хутка, але напэўна на працягу года-паўтара. Да гэтага яна будзе прыязджаць да нас, а мы сюды ў тэатр, і будзем падрыхтоўваць сцэнічныя чытанні. Выбярэм беларускую п'есу, якую Карыткоўская ў нас падрыхтуе. Я ўпэўнены, што гэта выкліча вялікую цікаўнасць у Мінску.

Беларускія госці наведалі пры нагодзе тэатры «Вершалін» у Супраслі, і «Trzyrzecze» ў Беластоку, якія зацікаўлены ў папулярызацыі ў Беластоку і шырэй у Польшчы беларускай драматургіі (на пачатак п'ес Паўла Пражкі і Мікалая Рудкоўскага). Таксама гасцявалі на Радыё Рацыя. Варта пры нагодзе прыгадаць, што Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі (пры папярэднім кіраўніцтве тэатра), «Чарнобыльскую малітву» ў сваёй пастаноўцы паказваў у Беластоку, Бельску-Падляшскім і Гайнаўцы ў 25 гадавіну чарнобыльскай катастрофы. Беластоцкая пастаноўка суправаджаецца выставай Паўла Гжэся. На тры гадзіны да прэм'еры «Чарнобыля. Last minute» пры беластоцкім Драматычным тэатры афармілася Мастацкая рада. У яе складзе апынуліся сусветнавядомы мастак Лявон Тарасэвіч, беларускі гісторык Алег Латышонак і Мацей Халадоўскі. На чале Рады стала Данута Курань, заснавальніца Усеагульнага ўніверсітэта імя Яна Юзэфа Ліпскага ў Тэрэміскіх і старшыня Фонду сацыяльнай дапамогі SOS імя Яцка Кураня. Пасля прэм'еры, калі яе спыталі аб уражанні, прашаптала яна, вельмі ўсхваляваная, як і многія іншыя выходзячыя гледачы:

— Гэта жахлівае.

## Прыклад годны пераймання

28 лютага закончыўся пантыфікат папы рымскага Бенедыкта XVI. Нечаканая адстаўка галавы Каталіцкага касцёла выклікала шматлікія здагадкі. Чаму чалавек з так вялікім аўтарытэтам адмаўляецца ад пасады? Рэч небывалая. На маю думку, гэты прыклад годны пераймання кіруючымі палітыкамі.

У сучаснай дэмакратыі так бывае, што калі хтосьці дарвецца да „карыта", дык сілком цяжка яго адарваць ад крэсла. Прыкладаў не стану далёка шукаць. Пакарыстаюся прыкладам збоку. Прэм'ер Дональд Туск другі тэрмін паўнамоцтваў кіруе дзяржавай. Адначасова з'яўляецца лідарам палітычнай групоўкі. Два гады таму публічна заяўляў, што не будзе прэтэндаваць на пасаду старшыні Грамадзянскай платформы. Зараз раздумаўся. Якія б гэтыя выбары не былі, уступае ў саперніцтва са сваімі канкурэнтамі...

Іншы прыклад. Старшыня раённай арганізацыі Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў у Чаромсе царыць больш трыццаці гадоў. Яму ўжо за 85 год. Узрост не першай маладосці, ды і здароўе падводзіць. Але ў адстаўку не збіраецца. Яго тэрмін паўнамоцтваў закончыўся ў мінулым годзе. Тры разы адтэрміноўваў выбары. Чарговы тэрмін назначаны на 15 сакавіка. Ці адбудуцца статутныя выбары, цяжка сказаць. Старшыня ўсялякімі спосабамі намагаецца выключыць з ігры непрыхільных сабе дэлегатаў. Нават дапускаецца фальшавання дакументаў. Закалот вакол выбараў у Саюзе пенсіянераў у Чаромсе пашыраецца. Чым закончыцца, пакажа час.

Вось як гэта бывае з адстаўкамі!..

**Уладзімір СІДАРУК**

## Пра Калінінградскую акругу

Цэнтр усходніх даследаванняў у Ольштыне наладзіў канферэнцыю на тэму дэмаграфічных працэсаў у Калінінградскай акрузе Расійскай Федэрацыі. Прыехалі госці з Калінінградскага дзяржуніверсітэта, м.інш. праф. Віктар Касцяшоў і д-р Валеры Гальцоў. Расказалі яны пра горад на Прэголі, які зараз рыхтуецца да арганізацыі групавых матчаў футбольнага чэмпіянату свету, што адбудзецца ў 2018 годзе.

Для будаўніцтва стадыёнаў і інфраструктуры патрэбныя будуць тысячы рабочых і без гастарбайтараў пэўна гэта не абыдзецца. І мова тут не толькі пра людзей з Сярэдняй Азіі, але і пра грамадзян суседніх Беларусі, Літвы і Польшчы. Сезонныя рабочыя тут прысутныя, іх тысячы. На працягу першых дзевяці месяцаў 2012 года ў акругу прыехала каля дваццаці дзвюх тысяч імігрантаў, у большасці ў пошуках заробку.

У Калінінградскай акрузе зараз пражывае каля 950 тысяч чалавек, з чаго 78% у гарадах, а ў самім Калінінградзе каля паловы ўсяго насельніцтва; шчыльнасць насельніцтва ўдвая меншая чым у Польшчы. З меншасцей: беларусаў у акрузе пражывае, паводле перапісу з 2010 года, трыццаць дзве з паловай тысяч, крыху больш украінцаў; падобна маецца справа з палякамі і літоўцамі — іх па 2,7 тысяч. У акрузе вялікая міграцыя насельніцтва: толькі 30% жыхароў акругі там нарадзілася.

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Жаўранкі, жаўранкі, прыляціце!



фота Ганны Кандрацюк

Дзесьці з нябёс, сярод заснежаных палёў, праравўся радасны спеў жаўранка. Мы паазіраліся на полі, каб упэўніцца, што голас вясны — не фантазія, а звычайны яе прыход. Школа ў Новым Корніне стаіць у чыстым полі. Навокал яе распасціраецца лагодны краявід, пануюць спакой і цішыня. Нас тут вьглядалі ад рання дзеці і настаўнікі. У школе больш за сорак дзетак, з вялікай часткі Гайнаўскай гміны. І ўжо ад пачатку сустрэчы мы ведалі, што слова „жаўранак” тут сінонім беларускай мовы. Чаму так? Паслухайце, якая чароўнасць беларускай песні!

— Бо ў нашай вёсцы ёсць беларускі *зэспул* „Жаўранкі”, там спявае мая мама, — кажа дзяўчынка з першага класа.

Яшчэ больш ганарыліся „Жаўранкамі” хлопцы з Махнатага. Калі іх бацькі ідуць на рэпетыцыі, тады можна пасядзець у пажарнай машыне!

Машыны для дзяцей — захапленне, але і вялікая небяспека. У школе праводзіўся пластычны конкурс, мэта якога — падняць узровень свядомасці пра нешчаслівыя здарэнні ў сельскай гаспадарцы. Іх ахвярамі часта з'яўляюцца дзеці. Не ад сёння вядома, што хлапчукі, ледзь падрастуць, прэцца за руль, каб пакатацца на трактары ці іншай цяжкай машыне. Некаторыя бацькі дазваляюць на гэта, не думаючы пра небяспеку.

— Я намаляваў два рысункі, — апавядае нам Тамаш Анікіюк. — На адным дзіця не было асцярожным і падышло блізка-блізка да машыны. А нам трэба памятаць, каб трымацца здалёк ад такога камбайна, бо невядома, што можа здарыцца...

Неразважныя паводзіны заўсёды канчаюцца калецтвам на ўсё жыццё. Найбольшая нябяспека чакае дзяцей, якія ўсё сядзяць перад камп'ютарам. Часта ім падаецца, што ў здарэнні ўдзельнічаюць героі камп'ютарнай гульні.

— Я то маляваў такога „духа”, які стаяў каля камбайна і не пускаў дзіця ўсярэдзіну, — апавядае нам іншы першакласнік.

Яшчэ іншы вучань распавядаў пра „духа”, які малюе свет.

— А ці хто бачыў таго духа?

— Так, гэта вецер, — адказаў хлопчык.

Карнянскія вучні заварожаныя светам карцінак, камп'ютараў і малявання. Гэтая забава часта ім спалучаецца з віртуальным светам у камп'ютары. Таму нам вельмі хацелася паразмаўляць пра беларускія песні і цяжкія машыны. Дзеткі ахвотна пераключыліся на прапанаваныя тэмы. Наймалодшыя нават заспявалі песеньку *Нам сем гадоў і ўсе мы вясёлы...* А пасля пачаліся вершы, вершы, вершы.

Тут неперасягненым аказаўся трэцякласнік Куба Казімярук, які рыхтуецца да конкурсу „Роднае слова”. Куба вывучыў даўжэзны і смешны твор Артура Вольскага пра ўнука, дзедка і бабку.

А пасля мы зноў вярнуліся да вясны і да тых колераў і гукаў, якія яна нам прынясе. Дзеткі паабяцалі намаляваць гэты чароўны момант, калі шэрань мяняецца ў зелень, а жаўранкі напаўняюць сваім спевам паветра, якое лашчыць вясновыя краскі, што зацвітаюць у полі і ў школьным агародзе. Дзьмухаўцы, падбел, нарцысы, цюльпаны, маргарыткі, браткі...

Тады добра выйсці перад школу і весела пагуляць, паслухаць, як у небе спяваюць птушкі. Можа лягчэй будзе гаварыць на сваёй роднай мове, якую амаль цалкам ужо забылі нашыя вясковыя дзеткі.

**ЗОРКА**



# Конкурс пра зіму (11)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам зімы. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

**1. Хто з'яўляецца аўтарам праекта бел-чырвона-белага сцяга?**

а) Янка Купала,
б) Клаўдзій Дуж-Душэўскі,
в) Вацлаў Ластоўскі.

**2. З якога гістарычнага часу выводзіцца знак Пагоня, герб Незалежнай Беларусі.**

а) з XX стагоддзя,
б) з ВКЛ,
в) з сярэдневякоўя.

**3. Хто быў першым прэм'ерміністрам Беларускай Народнай Рэспублікі?**

а) Іван Краскоўскі,
б) Язэп Варонка,
в) Станіслаў Булак-Балаховіч.

Адказы дасылайце да 31 сакавіка 2013 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

**Рашэнне конкурсу № 7:** 1 — на Грамніцы (в); 2 — Камаедзіца (в); 3 — мядзведзі (в). Узнагароды — аўтаручкі — выйгралі **Каміля Навіцкая, Марцін Аврарчук, Крыстыян Яцко** з Арэшкава, **Магда Пташынская** з Нараўкі. Віншуем!

**ЗОРКА**

# Вершы Віктара Шведа

## Чаму звяртаешся на ты?

Бацька сварыць сынка малога:
— Чуў як да Міхася старога
Сыночак, хіба з дурнаты,
Звяртаешся чамусь на ты?

Гэта ж нязветліва, сыночак,
Відаць, быць бескультурным хочаш.
Сынок на гэта адказаў:
— Ён першы так мяне назваў.

## Рэгуліроўшчык

Бацьку запытвае Ваня:
— Хто гэта на скрыжаванні?
— Рэгуліроўшчык руху.
— Тады, татка, паслухай:

Чаму ён жэстыкулюе?
— Рух машын рэгулюе.
— Адкуль яму ведаць тады,
Хто мае ехаць куды?

# Як скарб з-пад печы выходзіў

*(беларуская народная быль)*

Верагодна, гэтая гісторыя здарылася даўным-даўно, а можа зусім нядаўна, тры або чатыры гады таму назад. Няма сумненняў наконт самога месца, бо ж стары і малы ў нас ведае, што нячысцікі ў выглядзе бараноў шпацыруюць сабе нават у белы дзень па Нараўчанскай гміне!

Паслухайце і самі зрабіце найлепшыя высновы. Адзін гаспадар пабудаваў новую хату, але ніхто не мог у ёй начаваць, бо абы ноч, з-пад печы вылазіў баран і ўсё бляяў:

— Выйду! Выйду! Выйду!

Што не рабілі гаспадар з гаспадыняй, нічога не памагала. Яны асвяцілі хату, свечку грамнічную палілі, прывозілі шаптуху, каб тая загаварыла — а ліха ўсё роўна не сыступала. Засумавалі людзі ды вярнуліся жыць у старую хатку, што ў зямлю ўжо ўрастала. Аднаго разу іх лясны хутар наведаў падарожнік і папрасіў:

— Гаспадарыку, прыміце мяне на-нач!

— Што ж мне маніць!? Я сам з сямейкай у летняй кухні начую, бо ў хаце нешта ўсё страшыць.

— Нічога, дазвольце заначаваць.

— Толькі каб пасля да мяне крыўды не гадавалі!

Зайшоў падарожнік у новую хату, распрануўся, запаліў свечку, лёг на печы і „Ніву” чытае. Ажно як свечачка згарэла, дык і вылазіць нешта з-пад печы. І авечым голасам бляе:

— Выйду! Выйду! Выйду!

Падарожніку валасы дыбам сталі, вядома, сам адзін на ўвесь агромністы дом быў. Але ж не даўся, кій ухапіў і давай ламатаць у прыпечак. І загадваць ліху:

— Ну, то выходзь! Выходзь ужо!

З падпечка вылез нябрыдкі баранчык і ўжо рагамі хацеў падарожніка пабароць. А той толькі таго чакаў. Як грымне кіем па ваўняным ілбе! Бах! Бах! Бах! І глядзіць, што дзіва нейкае наводкал, золата з галавы барана сыплецца. Нагарнуў падарожнік золата ў рукзак колькі хацеў, і пайшоў сабе ў свет вандраваць. А рэшту гаспадарам пакінуў...

**Зорка**

# Музыка з кайфам

## Час на джаз

Фот. М. Хеллер

„Людзям здаецца, што джаз гэта музыка не для іх, але гэта таму, што пачынаюць не з тых, што трэба, выканаўцаў”. Гэта словы не нейкага аўтарытэта ў галіне джаза ці музыкі. Сказаў мне гэта вучань музычнай школы ў Беластоку — удзельнік майстар-класаў па джазе, якія ў Падляшскай оперы і філармоніі вялі магутныя сусветныя джазмены. Цытую гэтага хлопца, бо вельмі мне спадабалася з ім гутарыць, а ён не толькі вучыцца граць класіку, але ў свабодным часе выступае са сваім джазавым трыо і адчувае патрэбу, каб пра джаз гаварыць, каб джаз распаўсюджваць ці заражаць джазам. Я з ім згодная. Густ гэта адно, але практычна ў джазе знойдзем музыку для кожнага. Ёсць джазавыя фанкі і джазавы поп, чаго з лёгкасцю маглі б слухаць нават тыя, якія слухаюць гіт-парады паасобных радыёстанцый. «Ясна, што калі пачынаеш слухаць джаз з Луі Армстранга і асацыюецца ён толькі з трашчаннем чорнай грампласціны, то цяжка такую асобу будзе пераканаць, што джаз можа быць ёй блізкі» — працягвае мой суразмоўца. І цяжка з ім не пагадзіцца. Тым больш, што часта, апрача стандартаў джаза, праз пасрэдніцтва сродкаў масавай інфармацыі даведацца пра «іншы» джаз вельмі складана.

Аб'яднанне «Джазавы аркестр» са Шчэціна ўжо шмат гадоў займаецца прамоцыяй джаза і арганізаваннем майстар-класаў ці проста адукацыяй маладых. Такія майстар-класы даехалі разам з канцэртам у Беласток. З дзесяткамі ўдзельнікаў сустрэліся трубач Пётр Вайтасік, піяніст Рэджы Мур (Reggie Moore), кантрабасіст Эсіет Окан Эсіет (Essiet Okon Essiet) ды бубнач Ньюман Т. Бейкер (Newman T. Baker). Усё дзякуючы падтрымцы мецэнатаў — вялікіх фірм, якія заўважаюць патрэбу развіцця маладых талентаў і не шкадуюць сваіх грошай, каб фінансаваць вялікія зоркі музыкі ды іх працу з маладымі, зацікаўленымі справай людзьмі. Ёсць вялікія шансы, што гэтая ідэя будзе ў Беласток вяртацца.

У якасці дэсерта пасля майстар-класаў — канцэрт. Вялікія музыкі зайгралі ў зале Падляшскай оперы і філармоніі, а беластоцкай публіцы заспявала маладзенькая вакалістка Анджаліка Анозі. У зале, вядома, сядзелі і марылі пра падобныя выступы ўдзельнікі джазавых майстар-класаў...

**i_basovka@o2.pl**

# У лесе Караліны Каравай

Лес для жыхароў Падляшша — звычайны краявід. Аднак калі такі лес убачыць жыхар тундры ці пустыні, ён здзіўляецца цудам прыроды. А дрэва — самы дасканалы твор!

Гэта разумеюць дзеці, якія жывуць у наваколлі Белавежскай пушчы. У іх асаблівая сувязь са светам прыроды. Лес гэта таксама міфалагічная прастора. Сярод пошуму дрэў мы пачынаем спяваць песні, марыць, прыдумваць новыя ідэі. Лес лечыць збалелую душу, ачышчае ад стрэсаў і страху. Сярод беларусаў асаблівай павагай карыстаюцца дубы. Людзі адчуваюць іх добрую моц і ахвотна пры іх адпачываюць. У Белавежскай пушчы ёсць урочышча Крыначка. Там — царкоўка і святая крыніца. Месца знаходзіцца сярод святлістай дубровы, на адзінай такога роду дубовай паляне ў заходне-цэнтральнай Еўропе.

Караліна Каравай, вучаніца пятага класа ў Нараўцы, мае свае ўлюбёныя сцежкі ў лесе. Яна адчувае глыбокую сувязь са светам дрэў. Пад уплывам яе пранікнёных духам лесу вершаў мне проста захацелася пахадзіць па лесе, падыхаць водарам соснаў і адчуць моц дубоў. Напэўна там ужо расцвіла чароўная ваўчаягада (wawrzynek wilcze łyko) — найпершы сімвал вясны і новых спадзяванняў.

**ЗОРКА**

Караліна КАРАВАЙ

### Дуб

Стаіць дуб раскідзісты,
на ім лісточкі зялёныя.
Хто не ідзе,
хто не едзе,
на дуб спаглядае
і ім захапляецца.
Які дуб харошы,
які раскідзісты.
На вёску спаглядае
і ад зімы лісточкі скідае.

### Белавежская пушча

Як я люблю хадзіць у лес.
Там я думкі свае збіраю
і пазітыўна сябе настаўляю.
Ходзіш па дарожках вузкіх
і грыбочкі збіраеш,
высокім лесам захапляешся.
Колькі там дрэў расце —
не пералічыш,
бо лес такі каляровы і прыгожы
мільгацяць у вачах агнямі.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Польска-беларуская крыжаванка № 11

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7:**

Ой, рай, пік, Ас, рэха, ай, лой, вяз, фейсбук, клас, кіт. Парк, край, Ас, фа, ой, лес, рой, рэйс, павук, які, сказ.

Узнагароды — фламастары — выйгралі **Наталля Бірыцкая**, **Наталля Марчук** з Нараўкі, **Матвей Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Эмілія Хмур**, **Вікторыя Артэмюк** з Бельска-Падляшскага, **Малгажата Галёнка** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Pas / Narew | | Narcyz | Słońce / Winogrona | | | | | |
| | | | | | Słonina | | Akr / Nos | |
| | | Ił | | | Sklep | | | |
| | Znak | | | | | | Ser | Traktor |
| | | | | Usta | | | | |
| | | Gawron / Grom | | | | | Za | |
| | Piorun / Brat | | | | | Za / Nina | | |
| Bratanak | | | | | | | | |
| Ród | | | | Ty | As | | | |
| | | | Tango | | | | | |
| Tam | | Kreska | | | | | | |

■ Тэкст і фота Агаты АРЛЯНСКАЙ

# Музы Оп!еры ў „Агародах мастацтва”

**Найбольшым магнітам, які прыцягнуў у Падляшскую оперу і філармонію (ПОіФ) 2 і 3 сакавіка, была постаць выдатнай польскай паэтэсы Эвы Ліпскай. Яе свет прадставіла Барбара Грушка-Зых, паэтэса і літаратуразнаўца з Кракава. Вечар пачаўся ў адмыслова па-вясеннему аздобленай камернай зале філармоніі ў той час, калі яшчэ пару гадзін з-за сцяны даляталі бадзёрыя і рамантычныя беларускія песні. Тут царыла арфа і паэзія, вершы вопытных паэтаў, і маладых, і старэйшых пачаткоўцаў.**



Удзельнікі паэтычнага конкурсу — сядзіць Кацярына Сянкевіч

— Наш будынак на даху мае агарод, — адзначыў дырэктар ПОіФ Раберта Скальмоўскі. — Нядаўна мы былі на даху, каля помніка Чэславу Немэну. Маем надзею, што нашы яблынькі сёлета дадуць плод. Калі пацяплее, на нашым даху, пасярод раслін і пейзажаў з навакольнай Кнышынскай пушчы, запросім вас на літаратурныя і філасофскія сустрэчы. Мы з Басяй Грушкай надумалі, што будзем у наш агарод запрашаць паэтаў „з-за мяжы” — з Літвы, з Беларусі, пасля з Фінляндыі, Малдовы, бо такія сустрэчы, пасля майстар-класы і конкурсы маюць сэнс, яднаюць і даюць зарад для духоўнага зруху. Турнір аднаго верша з'яўляецца таксама першым аўтарскім паэтычным конкурсам арганізаваным ПОіФ — Еўрапейскім цэнтрам мастацтва, мэтай якога мае стаць прэзентацыя паэтычнай творчасці маладых паэтаў і вылучэнне з ліку лаўрэатаў маладых літаратурных талентаў. Гэтым самым ПОіФ хоча стварыць прыязнае месца для прэзентацыі сваёй творчасці ўсім зацікаўленым пісаннем паэзіі і маладым паэтам, чакаючым свайго дэбюту. Сустрэчам маюць спадарожнічаць майстарскія курсы і майстар-класы, ведзеныя пад кірункам запрошаных паэтаў. Майстар-класы павядуць заўтра Эва Ліпская, Міра Лукша і Тадас Жвірынскіс. Маем тут сёння паэзію ад супермайстра слова з Кракава, ад Пушчы, ад мастацкага станка і з-за аптэкарскага прылаўка...

Дух паэзіі не прапаў у наш цяжкі і малапаэтычны час. Камерная зала ў лясной сцэнаграфіі да казкі „Ясь і Малгося” (паводле казкі братоў Грым „Гензаль і Грэталь”), запоўнілася з берагамі аматарамі прыгожага слова. На чатыры гадзіны пасярод пернікавых дрэўцаў, над зялёным травяным дыванам, аколеных інструментамі і імглістым сяйвом, штораз бліжэй да столікаў, дзе сядзелі запрошаныя паэты — Эва Ліпская (1945), Міра Лукша (1958), Кацярына Сянкевіч (1991) і Тадас Жвірынскіс (1961) ды вядучая Барбара Грушка-Зых (ад 24 гадоў журналістка „Нядзельнага госця”) набліжаліся іншыя паэты. Аж пры турніры аднаго верша паэтычная кампанія апынулася пасярод залы, дзеля чыся словам. І ў турніры прагучалі розныя вершы — пра каханне, пра роднае, блізкае, да экзістэнцыяльных разважанняў, ад забавы словам да доўгіх паэм, запісаных або аддрукаваных на некалькіх лістках.

— Ці мастацтва можа быць паразуменнем, ці можна пры дапамозе паэзіі дамаўляцца па-над межамі, не толькі моўнымі, але межамі, якія ствараюць сабе людзі? — паставіла адно з самых важных у гэты дзень пытанняў Барбара Грушка-Зых.

— Буду кароткі: так ёсць, — выклікаў ухвалу Тадас Жвірынскіс, паэт-аптэкар. — Паэзія таксама лечыць, памагае, яна — псіхаактыўнае лякарства.

— Я думаю, што так. Мы ў горадзе Беластоку, горадзе які быў у першым Еўрасаюзе — Вялікім Княстве Літоўскім і Кароне, — адзначыла Міра Лукша. — Там, дзе шматкультурнасць, шматмоўнасць жылі стагоддзі. Увесь час гэта было месца жывое, кіпучае таксама эмоцыямі, не заўжды найлепшымі, дзе ў сапраўднасці штодзень стваралася гісторыя, узнікалі таксама і мовы — як мова эсперанта. Гэта было і ёсць жывое месца. І было заўжды па-над межамі, і ёсць. Таму гэтая паэзія, якую тут чытаем, на польскай, беларускай, літоўскай мовах, якую прывозім, якую вывозім адсюль у кніжках і памяці, якою дзелімся, ёсць і павінна быць гэтым нашым надзённым хлебам, які нас яднае.

— Я калісьці пачула, — дадала Кацярына Сянкевіч, — што мастацтва гэта пераказ паміж розумамі. І я сцвердзіла, што так сапраўды ёсць. Часам перажываем вельмі моцныя эмоцыі, калі пачуем нейкую песню, прачытваем верш ці пабачым карціну. І не патрапім гэтага растлумачыць. Бывае, што адчуваем нейкае перажыванне блізкае перажыванню аўтара. Гэта незвычайнае, кранаючае містыкі. Паэзія, словы — звышмежныя.

— Я згодна з маімі папярэднімі прамоўцамі, — дадала Эва Ліпская. — Наваліс сказаў, што паэзія лечыць раны, якія ёй наносіць розум. Кажуць, што час цяпер для паэзіі кепскі. Але ў сённяшні час, вельмі медыйны, у які высокая культура страчвае, выпіхаецца баналам, суцяшае тое, што на інтэрнэтных форумах столькі ёсць паэзіі. Пераклад паэзіі — нялёгкі, бо фактычна шмат што неперакладальнае. Але яна ўздзейнічае па-над межамі. А я захапляюся і будынкам гэтай філармоніі, збудаваным з вялікім размахам, незвычайным. Кракаў вам зайздросціць такога гмаху культуры, і гэтай цікавай паэтычнай задумы. Было мне цікава як праводзіць паэтычныя сустрэчы ў оперы і бачу, што можна, і цікава.

Запрошаныя аўтары чыталі свае вершы на родных мовах, успаміналі адышоўшых — Сакрата Яновіча і Веслава Шыманскага.

— Спадзяюся, што сённяшняе чытанне вершаў вылечыла чыюсьці рану, камусьці, хто тут з намі сядзеў і гэтых вершаў слухаў, — падагуліла Барбара Грушка-Зых.

У турніры аднаго верша ў групе больш за 30 асоб перамог Павел Гаршэўскі (1000 зл., запрашэнне на мюзікл і ўдзел у майстарскіх курсах) іранічным вершам аб Багародзіцы ў час фейсбука, у якім таксама Яна разгубілася, і неахвотна стварае профіль на фейсбуку, бо мае праблему з логінам, чапляе толькі нешматлікіх, лайкаў шмат не дастае... Сярод удзельнікаў была і 11-гадка, студэнты, гімназісты, працаўніца мастацкай галерэі, аніматар культуры, рэжысёр, пару пенсіянераў. Вылучаны былі Кацярына Багдановіч, Дагмара-Люкрэцыя Сломская, Ганна Нарушэвіч і Павел Барусевіч. На майстар-класах працягнуліся плённыя разважанні пра творчасць і форму творчага чалавека „ў час фейсбука”. Неўзабаве чакаюць новыя сустрэчы ў агародах Оп!еры!

# Жыве паэзія!



Міра Лукша, Юліюш Эразм Болек (лаўрэат Х Сусветнага дня паэзіі), Марыя Кандзельская, Аляксандр Наўроцкі (галоўны рэдактар «Паэзіі сёння») і Барбара Юркоўская на прэм'еры Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА ў Беластоку 6 сакавіка ў Падляшскай ксёнжніцы

Сусветны дзень паэзіі, аб'яўлены ЮНЕСКА, адзначаецца штогод 21 сакавіка, пачынаючы з восені 1999 года. Мэтай гэтага дня з'яўляецца садзейнічанне чытанню, ліставанню, публікацыі і выкладанню паэзіі ва ўсім свеце. ЮНЕСКА абвясціла, што гэты дзень адзначаецца таму, каб «надаць новы імпульс шанаванню паэзіі і падтрымцы нацыянальнага, рэгіянальнага і міжнароднага руху паэзіі». Сусветны дзень паэзіі адзначаецца ў асноўным у Парыжы, дзе на працягу многіх гадоў падтрымліваюцца традыцыі паэтычных фестываляў. Пампезна святкуецца Дзень паэзіі ў Грэцыі, Іспаніі і Вялікабрытаніі. Дзень паэзіі калісьці адзначаўся 5 кастрычніка. У другой палове ХХ стагоддзя сусветная супольнасць стала адзначаць 15 кастрычніка, у дзень нараджэння Віргілія, выдатнага паэта старажытнага Рыма. Традыцыя святкавання гэтага свята ў кастрычніку захоўваецца ў многіх краінах, часам адбываецца ў іншы дзень або ў лістападзе. У Польшчы таксама ёсць ініцыятывы ў гонар гэтага дня. На працягу многіх гадоў якраз 21 сакавіка адбываюцца розныя падзеі, звязаныя з паэзіяй, часта ў правінцыі, у бібліятэках. Адбываюцца канцэрты, сустрэчы з аўтарамі, кнігамі і шматлікія конкурсы. Святкаванне адбываецца пад патранатам Польскай асацыяцыі пісьменнікаў. Мэтай фестывалю з'яўляецца садзейнічанне паэзіі як аднаму з найбольш важных эстэтычных адказаў на патрэбы сучаснага чалавека. Арганізатары падкрэсліваюць, што прыкметнае зніжэнне па ўсім свеце чытацкай аўдыторыі, асабліва паэзіі, можа адвярнуць чалавека ад сваіх традыцый, адасабляючы ад каранёў, культуры і самабытнасці. На падзею запрошаны паэты з розных куткоў свету. У гэтым годзе прымаць удзел будуць паэты з Літвы, Латвіі, Расіі, Азербайджана, Турцыі, Балгарыі, Венгрыі, Сербіі, Славакіі, Вялікабрытаніі і ЗША і, вядома ж, польскія. Прыбываюць госці — не толькі выдатныя паэты, але і выдаўцы, галоўныя рэдактары літаратурных часопісаў, кіраўнікі радыёвяшчання, тэлебачання і г.д.

Першай прэміяй за выдатную творчасць польскаму паэту з'яўляецца кніга вершаў, выдадзеная на дзвюх мовах: англійскай і польскай. Другі прыз — для замежнага паэта-перакладчыка польскай паэзіі, фінансуецца Міністэрствам культуры і нацыянальнай спадчыны. Трэцяя ўзнагарода — для маладога паэта за цікавы дэбют. Заключаюцца дагаворы паміж двума паэтамі, якія хочуць перакладаць і публікаваць адзін аднаму вершы ў сваіх краінах. Падзеі суправаджаюцца таксама шэрагам сустрэч з аўтарамі ў школах і ўстановах культуры. У мінулым годзе на сусветнай прэм'еры дня паэзіі 20 лютага ў Лондане ганаровымі гасцямі мерапрыемства былі прадстаўнікі рэдакцыі «Паэзіі сёння». Прыбыло больш за 150 чалавек, адбылася прэзентацыя 23 паэтаў і груп выканаўцаў. Таксама з'явіліся інфармацыі ў шматлікіх сродках масавай інфармацыі, у тым ліку польскіх, між іншым у выданні «Nowy Czas», які апублікаваў багатую інфармацыю з творамі, ілюстраваную фотаздымкамі з месца падзей, з гасціннай штаб-кватэры польскага сацыяльнага і культурнага цэнтра, размешчанага па вуліцы Кінг Стрыт, 238-246 у Лондане. Стваральнікамі цэлага паэтычнага свята ў Лондане былі Адам Сяменчык (родам з Гарадка) — паэт, мастак-графік, эсэіст і яго сястра Марта Брасарт — паэтэса і аніматар культуры. А 16-17 сакавіка г.г. у Лондан запрошаны сёлета на Сусветны дзень паэзіі таксама аўтаркі з Беластока — Міра Лукша і Ганна Кандрацюк.

Польскі камітэт ЮНЕСКА прапануе сваю штогадовую арганізацыю ў Польшчы рэдактарам «Паэзіі сёння». Урачыстае адкрыццё Сусветнага дня паэзіі ў Польшчы пройдзе 11 красавіка ў Музеі літаратуры імя Адама Міцкевіча ў Варшаве. Запрошаны таксама прадстаўнікі паэтаў з Літвы, Беларусі, Расіі і іншых краін. Мерапрыемства будзе доўжыцца на працягу трох дзён.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Крыж перад Чорнай-Царкоўнай

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# За Браньскам (2)

**З Карыцін у Сямёны дарога пралягае лесам. Сама вёска Сямёны распаложана па абодвух баках рэчкі Чорнай — левага прытока Нурца. Левабярэжная частка быццам менш важная, яна і названа Зарэччам, але па ёй праходзяць найважнейшыя там дарогі.**


Царква ў Чорнай-Царкоўнай

Перад Зарэччам адыходжу з галоўнай дарогі ў бакавую, што адыходзіць у лес, а адтуль на сенажаць і на масток, праз які дарога на галоўную вуліцу вёскі. Масток той драўляны, пабудаваны яшчэ ў час, калі па ім не ездзілі трактары, толькі конныя падводы. Такі драўляны масток здаецца мець нейкую такую асаблівасць, якая выпраменьвае нешта накшталт эмацыянальнай цеплыні — гэтай уласцівасці здаюцца не мець вылітыя з бетону больш сучасныя канструкцыі. Цяпер модныя рознага кшталту скансэны, у якія звозяцца розныя збудаванні, якія адыгрывалі важную ролю ў жыцці ранейшых пакаленняў. Але, здаецца, няма ў іх ліку мастоў, бо ж выглядала б кур'ёзна, калі б такое збудаванне паставілі на сушы між даўніх хат, адрын, шпіхлераў ці ветракоў...

Перад Сямёнамі старой даты каваны крыж на высокай конусавіднай калоне, абведзены драўляным хілым ужо плоцікам. За крыжом крыху кустоўя, надпісу ніякага на аб'екце няма. Неўзабаве, у межах ужо вёскі, паказалася жанчына, у якой я спрабаваў пра той крыж нечага даведацца. Але яна адказала, што таму крыжу будзе за сто гадоў, а пра дэталі трэба распытваць старэйшых мясцовых...

Даведнік Гродзіскай гміны так піша пра Сямёны: „Nazwa pochodzi od cerkiewnego imienia Siemion-Symeon. W pobliżu wsi znajduje się kurhan z okresu wczesnego średniowiecza. W 1434 r. wieś została nadana, wraz z rozległymi dobrami rudzkimi Pretorowi z Korczewa. W 1807 r. istniała tutaj cegielnia. W poł. XIX w. znajdowała sie tu także duża stadnina. W 1930 r. Franciszek Salezy hr Potocki posiadał w Siemionach 1550 ha lasów i łąk. W 1921 r. we wsi Siemiony było 47 domów, gdzie mieszkały 273 osoby (wszyscy Polacy, a według wyznania: 171 katolików i 102 prawosławnych), w folwarku w 4 budynkach mieszkały 102 osoby (wszyscy Polacy, a według wyznania: 84 katolików, 14 prawosławnych i 4 żydów), na kolonii w 2 budynkach 19 osób (wszyscy Polacy i katolicy)".

Партал Рудчанскага надлясніцтва падае і іншыя цікавінкі пра Сямёны: „W Siemionach znajduje się pozostałość zespołu dworskiego — dom z oborą oraz budynki gospodarcze z XIX w., park dworski z ok. 1774 r., przekomponowany w XIX wieku. W tym miejscu znajdował się Dworek Myśliwski hr. Potockich (obecnie, po przeniesieniu znajduje się w skansenie w Ciechanowcu). W miejscowości Siemiony, w pozostałości parku dworskiego znajduje się skupisko 38 (od 300- do 500-letnich) dębów". Іншыя крыніцы падаюць значна буйнейшыя лікі: „Siedziba leśnictwa Dołubowo i Siemiony znajduje się w miejscowości Siemiony. Te dwie leśniczówki przeplata 57 dębów w wieku około 400-500 lat, uznanych 11 lutego 1961 roku za grupowy pomnik przyrody. Stanowią one bezwzględnie unikat przyrodniczy, jakiego być może nie spotkamy w żadnym zakątku Europy". А спатканы мною некалькі гадоў таму ляснік гаварыў і пра сотню векавых дубоў там. Парк гэты размясціўся за паўднёвымі акраінамі вёскі.

У вёсцы будынкі розныя, драўляныя і мураваныя, усе, аднак, памяркоўнай велічыні. Побач адной з хат пасярэдзіне вёскі крыж на неабгароджаным цэментным пастаменце з надпісам: „Силою креста Твоего сохрани и спаси нас Господи. От молодёжи д. Семёны, 1913 г.".

На паўднёвым канцы Сямёнаў большае культавае збудаванне. Партал Драгічынскай дыяцэзіі: „Siemiony — drewniana kaplica dojazdowa [parafii Grodzisk] pw. św. Marii Goretti, zbudowana w latach 1982-1984. Dekretem z dnia 6 października 1984 r. ks. bp Władysław Jędruszuk, administrator apostolski diecezji pińskiej (1967-1991) pozwolił na sprawowanie w niej kultu liturgicznego. Następnego dnia dokonał uroczystego poświęcenia (07.10.1984 r.)".

Кім жа была Марыя Гарэцi? Вікіпедыя: „Maria Goretti przyszła na świat 16 października 1890 r. Jej rodzice prowadzili spokojne życie, pracując na roli, by mieć pieniądze na wyżywienie piątki dzieci. W maju 1900r. zmarł jej ojciec — Luigi Goretti. Od tego czasu rodzina, by móc się utrzymać, musiała dzielić pracę z sąsiadami — rodziną Serenelli. Miała kłopot z sąsiadem Alessandro Serenellim, który pragnął zbrukać jej czystość. 5 lipca 1902r. zaatakował ją i próbował zgwałcić. Maria broniła się całymi siłami, więc szesnastolatek czternastokrotnie dźgnął ją nożem. Maria Goretti zmarła następnego dnia, wybaczywszy swemu oprawcy. Sekcja zwłok wykazała, że dziewczynce udało się obronić swoje dziewictwo. Proces beatyfikacyjny Marii Goretti rozpoczął się 31 marca 1935 r. I trwał do 27 kwietnia 1947 r. Trzy lata później, w czerwcu, została kanonizowana przez papieża Piusa XII. Święta Maria Goretti jest patronką dziewcząt, dziewic oraz młodzieży".

На злучэнні дзвюх вясковых вуліц два аб'екты сакральнага прызначэння. У жалезнай агароджы крыж са шматкультурным/шматканфесійным надпісам: „Spasi Hospodi ludi Twoja Siemiony 1987 r.". Побач, на каменным пастаменце, натуральнага росту фігура мужчыны з дзіцём на руках, але каго яна прадстаўляе, не ўдалося мне даўмецца.

Зараз за канцом Сямёнаў, з-за лесу, паказваецца сілуэт недалёкай царквы, што ў Чорнай-Царкоўнай. Але яшчэ перад самой Чорнай, побач дарогі, стаіць крыж, вельмі падобны да таго, што за паўночным канцом Сямёнаў, толькі побач яго адно дрэва ды металічная агароджа з надпісам на ёй: „Skroccy 1885 r.". Магчыма, што такая ж металічная агароджа акаляла і раней згаданы помнік за Сямёнамі, толькі ў нашу эпоху руплівага выкарыстання другаснай сыравіны нехта тую схаваную за кустоўем агароджу зняў, вывез і прадаў як металалом. Для адных жа людзей яна магла быць цікавым помнікам даўніны, іншымі ж яна бачылася як кілаграмы жалеза з канкрэтнай за іх цаною. За апошняй здагадкай прамаўляе і адколаны кавалак цэменту пры крыжы — мабыць і яго хацелі зняць, толькі той стары цэмент аказаўся мацнейшым за мабільныя дэструктыўныя прылады. Пры гэтай нагодзе варта прывесці інфармацыю пра памежны слуп каля Богушаў, што за Граевам, які калісь-калісь быў пастаўлены на польска-прускай граніцы. Менавіта нехта распусціў чутку, што ў яго сярэдзіне замураваная сярэбраная глыба. І шматлікія шукальнікі скарбаў вярцелі свердзеламі той слуп у пошуках спакуслівых кілаграмаў каштоўнага металу...

Даведнік Гродзіскай гміны так піша пра Чорную-Царкоўную: „Nazwa pochodzi od rzeczki przepływającej obok wsi. Drugi człon został nadany dla odróżnienia od innych osad o tej samej nazwie i wskazuje na obecność we wsi cerkwi. W 1434 r. wieś została nadana, wraz z rozległymi dobrami rudzkimi Pretorowi z Korczewa. Jan Stanisław Ossoliński, starosta drohicki, w 1733 r. wybudował tu nową cerkiew, a w 1744 r. wyjednał przywilej na zaprowadzenie na placu przycerkiewnym 4 jarmarków i cotygodniowego targu. Wśród terminów zjazdów handlowych przewidziano też święto Opieki Najświętszej Marii Panny (Pokrowy). W 1921 r. we wsi było 33 domy, w których mieszkały 152 osoby (36 narodowości polskiej, 114 białoruskiej i 2 żydowskiej, a według wyznania: 36 katolików i 116 prawosławnych). W leśniczówce mieszkało 6 osób (wszyscy narodowości polskiej i katolicy)".

Царква ў Чорнай, пабудаваная пад Пакрову 1901 года, нядаўна была адноўлена і зараз выглядае яна як новая цацка, толькі што прынесеная з крамы. Пра прыхадскую гісторыю былі калісь, 21 год таму, пісалі ў „Ніве" а. Рыгор Сасна і Дарафей Фіёнік. Варта прывесці некаторыя вытрымкі з таго тэксту: „Калі пераглянуць вынікі археалагічных раскопак на могільніках, можна заўважыць, што пастаянна тут жылі людзі ўжо ў XI-XII стст. У гэты перыяд на Падляшша дайшло ўжо святло хрысціянства, пачалі ўзнікаць першыя праваслаўныя храмы ў Бельску, Драгічыне, Мельніку. Узнікалі яны таксама і ў меншых пасяленнях. Так магло быць і ў Чорнай. Да сёння тутэйшыя людзі паказваюць на ўрочышча, узгорак Цэрквіско, распаложаны к. 1,5 км на паўночны ўсход ад сяла. Паводле народнага падання, некалі стаяла там царква з асобнай званіцай. Пра прычыну знікнення з таго месца царквы вось як гаворыць паданне: У Светлае Свята (Пасха) адна жанчына пайшла ў поўнач на ютраню ў царкву. Была тая жанчына злою чарадзейкай. Па дарозе яна спатыкнулася і ўпала ў балота. Скінуўшы з сябе і са сваіх плячэй бруд, яна са злосцю закляла царкву: Бодай жэ се запала, як я се поваляла. І вось ад яе злоснага слова царква тая назаўсёды скрылася ў нетры зямлі".

На згаданае аўтарамі прыведзенай вытрымкі ўрочышча я не хадзіў, бо ў мяне ўжо і думкі пра нейкія далейшыя разведкі не было. Надвор'е было стаяла нулявое, значыць, яго тэмпература была больш-менш нулявая. З самой раніцы, калі я пачынаў вандроўку, снегавы насціл дарог і вуліц яшчэ неяк трымаўся, але з ходам гадзін, каля поўдня, той снегавы насціл разлезся і замік лёгка ісці па яго паверхні, трэба было цяжка змагацца з рыхлеючай водна-снегавой масай. Вось ужо ў Сямёнах было цяжка ісці па вуліцы, але ў Чорнай-Царкоўнай было ўжо гэта змаганне з дарогай. У вёсцы амаль цэлая вуліца вымашчана брукам, у снегавым покрыве растапіліся напоўненыя вадою ямы і немагчыма было ісці проста, толькі трэба было ўвесь час хадзіць нейкім слаламам, мінаючы тыя калюжыны. І або раздушваць нагамі снежна-вадзяныя вязкія глыбы, або адпіхаць за сябе камяні бруку. А яны, тыя камяні, усё новыя выраслі перада мною і мне паказалася, што я, як той міфічны Сізіф, бесканечна адпіхаю іх назад, так як ён бесканечна каціў глыбу перад сабою. Да таго ж трэба было цэлы час размяркоўваць дарожныя пазлы-адгаданкі: куды паставіць нагу, каб не паваліцца ў гразь, так як тая мясцовая злая чарадзейка. І каб пры нагодзе не сказаць нейкага лёгкага непрыстойнага слова, не наклікаць якой бяды...

*(працяг будзе)*



■ Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Пазнаць культуру, пазнаць горад, пазнаць сябе

Усераду, 6 сакавіка, першая арганізаваная група турыстаў з Беларусі мела магчымасць паглядзець спектакль „Корчак" у Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку. Амаль пяцьдзесят нашых усходніх суседзяў прыехала ў Польшчу ў рамках акцыі „Візы за білеты". Гэты праект оперы быў рэалізаваны разам з падляшскімі турыстычнымі фірмамі ды Мытнай палатай у Беластоку. Дзякуючы гэтаму супрацоўніцтву грамадзянам Беларусі дастаткова купіць у турфірме турыстычна-культурны пакет, каб атрымаць бясплатную візу. У цане пакета турысты з Беларусі мелі гарантаваны гатэль, экскурсію па Супраслі, а таксама білет на спектакль „Корчак", на якім прысутнічалі ўсе прыбылыя турысты. Варта згадаць, што беларусы, якія расказвалі аб сваіх уражаннях з трохдзённай паездкі, беспраблемна карысталіся беларускай моваю. Аказваецца, што акцыя „Візы за білеты" карысная не толькі беларусам, якія танна могуць наведаць Польшчу, але магчыма і нам самім, паколькі часцейшыя сустрэчы з беларусамі дазволяць разбурыць адмоўныя стэрэатыпы.

**Юрка** — *высокі, шчуплы мужчына з густымі вусамі і ўсмешкай, якая не зыходзіць з твару. Прыехаў з сябрамі са Слоніма; працаўнік прадпрыемства, якое займаецца вырошчваннем лесу. Аб магчымасці прыезду ў Польшчу даведаўся з інтэрнэту.*

— Мы ўжо тут даўно ў вас не былі, а ўсё ж такі мы суседзі. Апошнім разам, здаецца, я быў у Польшчы пяць гадоў назад, якраз у Беластоку. Канешне, мы чулі ўжо пра вашую оперу і захацелі паглядзець, нас гэта зацікавіла. Аб такой магчымасці прыезду мы даведаліся з інтэрнэту. Знайшлі, дагаварыліся, сарганізавалі і прыехалі. Мы ўсе з адной фірмы, якая займаецца вырошчваннем лесу. Прыехалі, проста, каб пабыць у вас. Сёння мы ўвесь час ездзілі па Падляшшы. Былі ў Супрасльскім манастыры. Ногі не баляць. Калі ёсць магчымасць паглядзець цікавыя рэчы, чалавек не стамляецца. Зараз паглядзім мюзікл пра Корчака. Я ведаю пра яго асобу толькі адно, што ён разам са сваімі вучнямі быў у канцлагеры і ў яго была магчымасць выйсці адтуль, але ён не хацеў пакідаць сваіх вучняў. І так застаўся з імі. Ну, я напэўна хацеў бы чагосьці больш даведацца аб Корчаку, таму цікава будзе паглядзець спектакль.

**Тадэвуш Тапчэўскі** — *жыхар Беластока, паляк, як сам падкрэслівае, сябра многіх падляшскіх беларусаў, прыйшоў на спектакль з жонкай.*

— Я даведаўся з тэлебачання аб такой магчымасці для беларусаў. Паводле мяне — гэта суперідэя. Пакуль што для нас можа здаецца, што ўсходнія суседзі прыязджалі толькі на пакупкі, але напэўна гэтага тыпу культурныя ўстановы будуць таксама ахвотна наведваць. Гэта цікавы праект, дзякуючы якому магчыма завяжуцца добрыя суадносіны паміж Польшчай і Беларуссю.

**Алег** — *дваццаціпяцігадовы мужчына, невысокі, круглы твар; прыехаў са Слоніма з сяброўкамі Тацянай і Ленай. Аб магчымасці прыезду ў рамках акцыі „Візы за білеты" даведаўся ад сяброў.*

— Шчыра кажучы, я не цікавы спектакля. Білет магу прадаць. Мы ўжо сёння наведалі і манастыр у такім гарадку пад Беластокам, і былі ў музеі ікон. Там якраз было даволі цікава. Быў толькі адзін экскурсавод, які ведаў расейскую мову, а пяць польскамоўных. Таксама не было магчымасці ўзяць беларускамоўнага экскурсавода. Натуральна, што не ўсё змаглі мы зразумець.

**Раберта Скальмоўскі** — *дырэктар Падляшскай оперы і філармоніі.*

— Я даведаўся, што адна група беларусаў, якая прыязджае, купіла сорак дзевяць білетаў на вячэрні спектакль, а яшчэ дадаткова адзінаццаць на ранак на „Яся і Малгосю", таму што прыязджаюць з дзяцьмі. Гэта проста цудоўна. І так мае быць!

**Аляксандр Сасна** — *намеснік прэзідэнта горада Беластока.*

— Заўсёды добра, калі сусед прыязджае да суседа. Можа яны пачнуць прыязджаць, пабачаць як іх прымаем, то і магчыма нас запросяць да сябе, каб, напрыклад, пабываць у іх оперы. Вядома, прыехала многа беларусаў і нейкая частка магчыма апынулася сюды толькі дзеля пакупак, але большасць хоча пабачыць штосьці іншае, неабавязкова „шопінг". Таксама як і мы, калі едзем у Мінск ці Гародню, заўсёды штосьці купляем.

**Рыгор** — *трыццацігадовы мужчына; пра магчымасць культурнай паездкі ў Беласток даведаўся з сайта адной з турфірмаў.*

— Нас вельмі зацікавіла праграма турфірмы. Мы ў Польшчы першы раз. Нам цікава паглядзець, чым жывуць нашыя бліжэйшыя суседзі. Увогуле цікава пазнаёміцца з культурай суседняга народа. У нас была экскурсія па горадзе, мы наведалі касцёлы і цэрквы. Таксама пабывалі ў манастыры. Толькі, на жаль, забыўся назвы гэтага гарадка. Там таксама пабывалі ў музеі ікон. Ну, гэта паездка вельмі цікавая і я думаю, што карысная будзе ўвогуле для сябе. Калі гаварыць шчыра, я здзіўлены такой колькасцю праваслаўных храмаў у Польшчы, таму што мне здавалася, што больш тут каталікоў.

**Тацяна** — *пяцідзесяцігадовая жанчына, прыехала з Гародні.*

— Не ўсе ездзяць у Польшчу зарабляць грошы. Вельмі многа культурных людзей ёсць у Гародні, каб вы ведалі. У нас таксама вялікі тэатр і наш лялечны тэатр прыгожы. Усё ж такі нам вельмі цікава паглядзець і вашыя культурныя ўстановы. Заўтра вечарам вяртаемся, абавязкова зробім рэкламу Беластоку сярод беларусаў, якія яшчэ тут не былі!



Мястэчка Крэва ў Беларусі ляжыць на шляху з Мінска ў Вільню. Цяпер яно настолькі малое, што не часта пазначаецца на картах. Але ў гістарычным плане яго значэнне па-ранейшаму застаецца не проста вялікім, а такім, якое цяжка перабольшыць.

Крэва вядомае, па сутнасці, двума чыннікамі — Крэўскім замкам і Крэўскай уніяй. Усё, што з імі звязана, гэта, канешне, сівая даўніна. Прыцягальныя гэтыя сувязі тым, што гісторыя тая наскрозь беларуская, і мелі падзеі часоў Крэўскай уніі вялікі адбітак як на жыццё нашых продкаў, так і на жыццё іх тагачасных суседзяў. Ну, а каб больш падрабязна даведацца пра старажытнае Крэва, варта зайсці на сайт, які носіць прыгожую назву „Крэўскі замак" і месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://kreuskizamak.by**.

З першага погляду сайт выглядае вельмі прывабна — на галоўнай старонцы ў вочы адразу кідаецца рэканструяваны выгляд замка і сярэднявечнага сельскага краявіду. Цэлы малюнак нібы паліты сонцам і таму адразу стварае добры настрой. Праўда, даны настрой крыху псуецца, калі пачынаеш чытаць тое, што змешчана ніжэй. А менавіта там пад загалоўкам „Свежыя навіны" месціцца інфармацыя як прыняць удзел у валанцёрскім летніку „Крэўская ўнія" ў 2012 годзе. Гаворка ідзе, зразумела, не аб машыне часу, толькі аб тым, што не абнаўлялася даная старонка ўжо каля года.

Разам з тым з галоўнай старонкі мы можам даведацца, што знаходзімся на сайце дабрачыннага фонду „Крэўскі замак", які быў створаны ў 2005 годзе і займаецца „працамі па праектаванні і правядзенні кансервацыйных работ на рэштках замка, даследаваннямі крэўскіх мясцін, рэгенерацыяй старых крэўскіх могілак і могілак з іншых мясцін, зборам вуснай гісторыі, правядзеннем святаў і фэстаў".

Што тычыцца гісторыі Крэўскага замка, то пра гэта сціпла, але лаканічна распавядаецца на старонцы „Замак". Там размова ідзе аб тым, што рабіла Крэўскі замак вельмі значным фартыфікацыйным збудаваннем у часы князя Гедыміна, як ён перабудоўваўся і дабудоўваўся, як страчваў сваё абарончае прызначэнне і як станавіўся папросту рэшткамі колішніх непрыступных муроў.

Даная старонка змяшчае і фотаздымкі. Менавіта на іх мы можам убачыць тое, што засталося ад замка. Праўда, здымкаў усяго толькі тры. Падаецца, што, нягледзячы на амаль поўнае зруйнаванне замка, прадставіць яго рэшткі, якія дацягнулі да нашых дзён, можна было б больш падрабязна.

Калі ж увогуле казаць пра фотапрэзентацыю нечага крэўскага, то большменш аўтарам сайта яе ўдалося зрабіць у рубрыцы „Крэва" ў падрубрыцы „Фотагалерэя". Асабліва ўражваюць здымкі тамтэйшых касцёла і царквы. Дарэчы, у гэтай рубрыцы распавядаецца і пра гісторыю самога Крэва, якое „ўтваралася на працягу 700 год шляхам развіцця з першапачатковага перакрыжавання двух трактаў і гандлёвага пляца на іх перасячэнні".

З „гістарычных" старонак на сайце ёсць яшчэ „Музей", але там не змешчана аніякай інфармацыі, з чаго трэба разумець, што рукі да гэтай старонкі ва ўладальнікаў сайта яшчэ не дайшлі. Шкада, дарэчы, і таго, што іх рукі не дайшлі і да такіх старонак як „Форум", „Праект гістарычнага цэнтра", „Бібліятэка" і некаторых іншых.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Беларускі Ясенін

# 110 гадоў з дня нараджэння Тодара Кляшторнага

11 сакавіка споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта і перакладніка Тодара Кляшторнага. Нарадзіўся ён у 1903 годзе ў вёсцы з надзвычай распаўсюджанай у Беларусі назвай Парэчча (сучасны Лепельскі раён на Віцебшчыне).

Пасля вайсковай службы вучыўся на рабфаку ў Оршы. У 1931 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў на радыё, у рэспубліканскіх газетах і часопісах. Быў сябрам літаратурных аб'яднанняў „Маладняк", „Узвышша", БелАПП. Друкавацца Кляшторны пачаў у 1925 годзе ў часопісе „Аршанскі маладняк". У свет выйшла некалькі зборнікаў ягонай паэзіі: „Кляновыя завеі" (1927), „Сьветацені" (1928), „Ветразі" (1929), „Праз шторм — на штурм" (1934). Літаратуразнаўцы адзначаюць, што для творчасці Кляшторнага характэрныя інтымная, краявідная, філасофска-медытацыйная лірыка, вершы песеннага складу, вершы-звароты, пасланні. Многія творы Тодара Кляшторнага пры яго жыцці сталіся аб'ектамі нападаў з боку абаронцаў партыйна-класавага падыходу да мастацтва: крытыка ўшчувала аўтара за неадпаведнасць ідэалагічным патрабаванням эпохі, наяўнасць упадніцтва, песімізму, „ясенінаўшчыны", паэтычнай распусты, багемнага стаўлення да свету.

У разгар сталінскіх рэпрэсій Тодар Кляшторны быў арыштаваны 3 лістапада 1936 года ў Мінску. 29 кастрычніка 1937 года як „член антысавецкай арганізацыі" быў засуджаны органамі НКВД да расстрэлу з канфіскацыяй маёмасці. Ужо на наступны дзень разам з вялікай групай іншых беларускіх літаратараў быў расстраляны.

Кляшторнага праз падабенства стылю і настрою вершаў называлі ў свой час „беларускім Ясеніным". Талент гэты, як і многія іншыя, быў загублены бязлітасным савецкім малохам. Пацярпела і ўся сям'я паэта. Ягоная жонка Яніна Германовіч таксама была асуджана НКВД як „член сям'і здрадніка радзімы" да 8 гадоў савецкага канцлагера. Век яе быў кароткі — памерла яна ў 1959 г. у 50-гадовым узросце, дачакаўшыся толькі смерці крывавага Сталіна і рэабілітацыі мужа ў 1957 г. У Тодара Кляшторнага былі тры дачкі — Тадзіяна, якая пісала вершы для дзяцей, Весналіна і Мая. Мая Кляшторная стала адной з кіраўнічак арганізацыі „Мартыралог Беларусі", якая зрабіла надзвычай шмат па вяртанні з нябыту імён рэпрэсаваных грамадзян.

Творчасць Тодара Кляшторнага, на жаль, дагэтуль не вельмі добра вядомая, нават сярод шчырых прыхільнікаў беларушчыны. А між тым гэта быў адметны талент, які не мог рэалізавацца напоўніцу ў страшную эпоху.

Творы Кляшторнага перакладаліся на літоўскую, расейскую і ўкраінскую мовы. На яго вершы напісана некалькі песень. У 2008 годзе адной з вуліц вёскі Камень на Лепельшчыне было прысвоена імя Тодара Кляшторнага, у вясковым Доме культуры створана бібліятэка-музей.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дзень жанчын у Чаромсе...

Міжнародны дзень жанчын на стала запісаны ў календары культурных мерапрыемстваў чыгуначнай Чаромхі. У мінулым даволі шумна адзначалася гэтае свята. У доме культуры „Калеяж" арганізаваліся святочныя вечарыны, у час якіх выдатніцам уручаліся ганаровыя граматы і значкі „Перадавы чыгуначнік". У мастацкай частцы выступалі папулярныя артысты і калектывы варшаўскіх сцэн (Ганка Бяліцкая, Войцех Млынарскі, ансамбль песні і танца Пагранічных войск „Граніца" ды іншыя). На прадпрыемствах жанчыны атрымлівалі кветкі і падарункі. Арганізавалі ім пачастунак. Адмысловую сустрэчу арганізаваў вузлавы камітэт ПАРП для жаночага авангарда. Зараз захаваліся адно ўспаміны ў памяці жывых і традыцыя святкавання для пераймання патомнымі...

Сёлета Міжнародны дзень жанчын адзначаўся 8 сакавіка ў Гмінным асяродку культуры. Імпрэза пачалася ў 14 гадзін. Арганізатарам былі Гмінны асяродак культуры і Польскі саюз пенсіянераў і інвалідаў. У мерапрыемстве ўдзельнічала


Войт уручае букет Любе Клімовіч

каля сарака чалавек, у тым ліку войт гміны Юры Шыкула, старшыня Саюза пенсіянераў Юзаф Дубковіч і яго намеснік Раман Туркевіч, ды некалькі пенсіянераў мужчынскага полу. З гісторыяй святкавання пазнаёміў кіраўнік самаўрада. Сваё кароткае выступленне войт закончыў пажаданнямі:

— З нагоды свята жадаю вам, паважаныя юбіляркі, самых прыгожых і жыццярадасных дзён. Няхай заўжды свеціць вам сонца, а з твару не знікае вясёлая ўсмешка.Таго вам жадаю ад шчырага сэрца. Для асалоды прыміце гэты сціплы пачастунак.

І тут жа войт з пакетам падаўся ў бок сталоў і пачаў частаваць удзельніц цукеркамі, затым, узяўшы букет жывых кветак, сказаў :

— Дазвольце, што ў знак прызнання на рукі спадарыні Любы Клімовіч перадам гэты букет ...

Чарговым прамоўцам выступіў Раман Туркевіч. Намеснік старшыні Саюза пенсіянераў і інвалідаў зачытаў вершы мясцовых аўтараў (нотабена, радных): Януша Ліпінскага і Мікалая Шатыловіча ды чыгуначніка з Вроцлава, якія прысвячаліся чаромхаўскім жанчынам. Зала ўзнагародзіла прамоўцу бурнымі воплескамі. Затым пачаўся пачастунак. Былі тосты з шампанскім і традыцыйным „Многае лета". На жаль, не хапіла музыкантаў, каб акампаніраваць спевакам. У каталікаў пачаўся перадвелікодны пост і таму не было танцаў. Ды і прысутнасць на імпрэзе была невялікая. Але атмасфера і так была цудоўная, задушэўная... Варта адзначыць, што шампанскае спансаравалі сужонства Альжбета і Раман Туркевічы, а ласункі — працаўнікі мужчынскага полу Гміннай управы, якія купілі смакоцці за грошы з добраахвотнай складчыны. Шчырае ім за гэта дзякуй!

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

**Аляксандр БАРАВЫ**

## Што тварыцца з вамі, людзі?

Што тварыцца з вамі, людзі?
Дзе ваш сорам? Гонар дзе?
Што зрабілася з краінай,
У якой вы жывяце?
Дзе сцяг продкаў вы падзелі?
Мова родная дзе? А?
Вы нашто яе ганьбіце,
Кажаце „колхозная".
А на ёй пісаў Купала,
Вершы добрыя складаў,
Мову ён кахаў як маці,
Усё жыццё сваё аддаў.
Вы забылі сваіх продкаў
І „Пагоню", мову, сцяг...
Я жыву ў сваёй краіне,
Але думка, што ў гасцях.
Што тварыцца з вамі, людзі?
Дзе ваш сорам? Гонар дзе?
Што зрабілася з краінай,
У якой вы жывяце?

# ... і ў Кляшчэлях

Святкаванні, прысвечаныя Міжнароднаму дню жанчын у Кляшчэлях, пачаліся 8 сакавіка ў 17 гадзін у Гарадскім асяродку культуры, спорту і адпачынку. Гасцей прывітаў дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк. У мастацкай частцы выступілі мясцовыя гурты: дзеткі з садка, „Мікстуркі" і „Фантазія". З гумарыстычнымі сцэнкамі і песнямі выступіў кабарэ „Люмбага" з Беластока. Мастацкая частка доўжылася каля паўтары гадзіны. У святкаванні ўдзельнічала каля шасцідзесяці чалавек, у тым ліку бурмістр Ірэна Негярэвіч і ганаровы госць — дзядуля Юстын Рошчанка з Дашоў.

У заканчэнні мастацкай часткі дырэктар ГАКСіА Лявон Алексяюк павіншаваў бурмістр Ірэну Негярэвіч, затым усіх прысутных з нагоды свята жанчын і ўручыў ім кветкі. Супольны пачастунак пры каве і гарбаце праходзіў у дружнай кампаніі і ў сардэчнай атмасферы.

**(ус)**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — добрую раду.

1. антонім зажынак = 37 _ 38 _ 44 _ 50 _ 49 _ 1 _ 39 _;
2. жыхар Астаны = 20 _ 21 _ 29 _ 30 _ 5 _;
3. прадмет хатняга абсталявання для сядзення, які... вывяргаецца з вулкана = 27 _ 28 _ 33 _ 34 _;
4. надзямельны купал = 46 _ 16 _ 15 _ 45 _;
5. тронкі з лязом = 19 _ 18 _ 17 _;
6. акула або акунь = 35 _ 36 _ 12 _ 2 _;
7. левы прыток Дзвіны або пасёлак пры зліцці іх = 24 _ 23 _ 11 _;
8. сіла, якая ўжываецца для перамяшчання рэчаў, напрыклад, газаў = 13 _ 14 _ 31 _ 32 _;
9. бесканечная змена секунд, дзён, гадоў = 7 _ 8 _ 22 _;
10. дзяржава на поўдні Паўднёвай Амерыкі = 47 _ 48 _ 3 _ 4 _;
11. горад, у каторым жыве найбольш кітайцаў = 41 _ 42 _ 40 _ 25 _ 26 _ 43 _;
12. цяжкае парушэнне функцый арганізма ў выніку моцнага фізічнага або эмацыянальнага штуршка = 9 _ 6 _ 10 _.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 |
| | | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 |
| | | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Баабаб, войт, Столін, тытан, хан, Мадагаскар, шум, шматы, Аклахома, камертон.

Рашэнне: **Багаты той, хто рады таму, што мае.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 17.03 — 23.03

**(22.03. — 20.04.)** На працы спадзявайся пахвал і прызнання. Вер толькі таму, што ўбачыш уласнымі вачыма. Не падпісвай непрачытаных дакументаў і не палягай на сведчанні нават сяброў. Калі хто схаваў на цябе камень за пазухай, яго дастане. У панядзелак слухай і назірай. Асабліва ў аўторак пільнуйся ад прастуды і інфекцыі.

**(21.04. — 21.05.)** Фартуна спрыяе дбайлівым. Добра высыпайся (асабліва Быкі з 29.04. — 3.05). Неакрэсленасць у любоўных пытаннях, нематываваныя канфлікты, недаразуменне і раздражненасць. Зважай на фальшывыя інфармацыі, не падпісвай непрачытанага. У пятніцу будзеш у цэнтры падзей і ўвагі.

**(22.05. — 22.06.)** Тыдзень поўны самых розных незабыўных падзей, ад нечаканых здабычаў да памылак і страт. Дзякуючы добрай арганізацыі і дапамозе іншых, справішся з часам і справамі, нават калі заліе цябе мора сустрэч. Будзь асцярожны ў час пакупак. Блізняты з 24-27 мая могуць быць стратнымі з-за іх легкадумнасці сваякоў. Серада лянівая і можа быць небяспечнай для твайго здароўя.

**(23.06. — 23.07.)** Цяпер ты крыху балансуеш над прорвай і, страціўшы асцярожнасць, можаш лёгка ўпасці. Не паддавайся паніцы — не разаб'ешся! Дакладна плануй свае дзеянні на тыдзень, старайся нічога не ўпусціць. У аўторак пры вялікіх сумах будзь асабліва асцярожным. У чацвер магчымыя канфлікты са старэйшымі сваякамі.

**(24.07. — 23.08.)** Смела бяры на сябе абавязкі, справішся з усім прыпяваючы. Маеш шанцы на поспех у справах, у якіх ужо паддаўся. Аформіш усе службовыя справы, усё ўжо ахопіш без праблем. У кар'еры пазмагаешся за сваё, твае задумы спадабаюцца кіраўніцтву. Можаш разгадаць загадку і гэтыя новыя веды памогуць табе ўмела рухацца ў меандрах калектыўных „гульняў". У панядзелак не падымай цяжкага.

**(24.08. — 23.09.)** Ад зорак маеш мноства сілы і энергіі. Дзякуючы інтэлігентнасці і спрыту павінна ўдацца табе выкарыстаць усе шанцы і магчымасці, якія адкрываюцца перад табою, толькі зважай на канкурэнцыю (не хваліся дасягненнямі ані тым больш планамі). Калі хочаш зарабіць, пастаў на вопытных супрацоўнікаў і дарадчыкаў. У суботу не пі алкаголю.

**(24.09. — 23.10.)** Мноства званкоў, нечаканыя госці, выпадковыя сустрэчы. Старайся весела правесці час. Зрабі першы крок да прымірэння. Маеш шанцы на выйгрышы. У аўторак будзеш жвавы і ініцыятыўны, і ўсе справы ўдадуцца. Чацвер — дзень кантрастаў (што добра пачнецца — горш кончыцца, і наадварот). Дома ці на працы трымай як амулет ступку з таўкачыкам.

**(24.10. — 22.11.)** Сустрэчы з новымі людзьмі і шматлікія розныя сюрпрызы. Можаш аказацца ў цэнтры ўвагі. Ашчаджвай свае сілы і здароўе (асабліва калі ты нарадзіўся 2-6.11.), усухоўвайся ў свой арганізм; пагражае табе інфекцыя. Асабліва дбай аб горла! І твой страўнік гэта не сметнік! Не бяры нічога ў крэдыт, не пазычай. Самотны Скарпіён можа знайсці братнюю душу. Будзь больш гнуткім, умей пайсці на кампраміс. У аўторак і сераду не ідзі ў адпачынак, каб не прапусціць чагосьці важнага на рабоце. У суботу не пакідай незавершаных спраў з гэтага тыдня.

**(23.11. — 22.12.)** Вернуцца вітальныя сілы і знакаміты настрой. Хаця твае планы і рэальнасць могуць табе здавацца далёкімі адзін ад аднаго, ты павінен пачаць іх ажыццяўляць. Прыйдзецца кіраваць іншымі людзьмі, нават калі афіцыйна ты не займаеш кіраўнічай пасады. Будуць цябе слухаць, а на твае просьбы і жаданні ніхто не адмовіцца. Аўторак — актыўны і творчы дзень.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш поўны надзей і пачнеш будаваць далёка ідучыя планы. Аднак не рассакрэчвай іх перад іншымі, таму што імі могуць пакарыстацца недругі. Пакуль усё добра разваж, магчыма, радыкальна зменіш падыход да складаўшайся праблемы. Добры час на ачыстку арганізма.

**(21.01. — 19.02.)** 19-23.03. апынешся ў адпаведным месцы і ў адпаведным часе. Дробныя падзеі пратруць табе дарогу да поспеху. Развяжаш інтрыгуючую загадку. Але 20-24.03. можаш апынуцца ў небяспечнай сітуацыі; не вырашай у той час важнага. Колькі дастанеш грошай, залежыць ад тваёй дбайнасці.

**(20.02. — 21.03.)** Да 20.03. схадзі да дантыста ці касметолага. Важныя справы адкладзі на наступны тыдзень, усё добра абдумай і разваж. У панядзелак будзь асцярожны на лесвіцы. У аўторак купляй камп'ютар ці мабільнік. У суботу чакае цябе выбар, ад якога залежаць будуць змены ў тваім жыцці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.iig.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",** BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Сучаснасць і беларуская бяда

Ганна КАНДРАЦЮК

Між Новым Беразовам і Новым Корнінам распасціраўся яшчэ зімовы краявід. Ранішняе сонца золатам адбівалася ад заснежаных палёў, з-за чаго адчуваўся белы ландшафт. Сам Новы Корнін, які калісьці з-за шматлюднасці празывалі *Хінамі*, прывітаў той жа халоднай чысцінёй. У пэўны момант мне здалося, што я не на сваёй падляшскай Гайнаўшчыне, а дзесьці ў паўночнай Даніі. Параўнанне наклікалі задбаныя драўляныя сядзібы з роўнымі платамі, пры адным катэджы, пабудаваным у стылі шляхецкага дворыка, хадзілі сабе пародзістыя конікі...

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



Вёска, што адразу кінулася ў вочы, мела ўжо несуцэльную забудову, многія сядзібы проста зніклі з зямлі, быццам іх там раней і не было. Неяк недарэчна і архаічна выглядалі тут цяжкія будынкі магазіна і малачарні. Мы праехалі ўсю вёску і не сустрэлі людзей на вуліцы. І вельмі дзіўна выглядала наступнае ўражанне. Наймен з усяго тут пабачанага памянялася школа. На такое параўнанне паўплывала сустрэча з настаўнікамі, якіх, здавалася, ведаю ад „заўсёды".

* * *

— А як заўтра адзначыце Дзень жанчын? — пытаем у настаўніцкім пакоі. На гэтую амаль сяброўскую ноту дазваляюць старое знаёмства і гасціннасць. З парога нам прапануюць каву і шакаладныя пірагі.

— Пра гэта трэба спытаць нашага мужчыну, — смяюцца настаўніцы. І ўсе глядзім на адзінага тут настаўніка Юры Кукліка, каб штосьці расшыфраваць. А той, хоць заклапочаны, не палез з адказам у кішэню:

— Я ж не адзін у школе, ёсць яшчэ бацюшка, кіроўца...

У апошнім сцвярджэнні было нешта з абяцання, таму „Свята жанчын" падалося нам „абмеркаваным". У малых школах, такіх як у Новым Корніне, сувязі паміж настаўнікамі не могуць быць абыякавымі. Паколькі ўсе настаўнікі даязджаюць сюды на працу на сваіх машынах, яны падбіраюць сяброў, каб было танней і больш выгадна. Выпрацаваць такі варыянт у рэаліях беларускай вёскі гэта няпростая задача. Менавіта сямейная атмасфера пануе таксама паміж вучнямі і настаўнікамі.

— Малая школа гэта штось файнага, добрага, — кажа дырэктарка Ева Мароз. — Нашыя дзеці не ведаюць што гэта агрэсія, яны сімпатычныя, сяброўскія. Усе хочуць нешта рабіць, чымсьці займацца. Мы таксама вельмі стараемся, бо адчуваем, што вельмі патрэбныя нашым дзецям...

У Новым Корніне 42 дзетак. Іх прывозяць у школу з паловы Гайнаўскай гміны. Найбольш моцнай вёскай аказалася тут Махнатае. На пачуццё іх самаўпэўненасці вельмі станоўча падзейнічалі культурныя працэсы ў іх вёсцы, асабліва дзейнасць беларускага калектыву „Жаўранкі", у якім спяваюць матулі і бацькі школьнікаў.

* * *

У Новым Корніне не толькі змяніўся знешні выгляд вуліцы. Можна сказаць, што замірае тут беларуская мова. Ніхто з першакласнікаў, якія апавядалі нам пра сваё ўдзельніцтва ў пластычным конкурсе, не ўмеў ужо гаварыць *па-свойму*, значыць, на мясцовым дыялекце. На нашыя беларускія пытанні дзеткі давалі адказы на польскай мове. Старэйшыя вучні, асабліва тыя з Махнатага, не мелі ўжо праблем са зразуменнем. У іх была натуральная цікавасць да культуры продкаў і найстарэйшыя хлопцы штосьці даказвалі *па-свойму*, жартавалі. Напэўна дапамагалі ім урокі беларускай мовы, на якія ходзіць сто працэнтаў навучэнцаў...

— Добра што ў апошні час у нас з'явіліся дапаможнікі, — кажа настаўніца беларускай мовы Яўгенія Сухадола. — Шмат матэрыялаў можна знайсці ў інтэрнэце...

Як кожны год, падрыхтавала яна вучняў да „Роднага слова". На раённы этап, які адбудзецца 20 сакавіка г.г. у Гайнаўцы, паедзе трэцякласнік Куба Казімярук. Куба, разам з малодшымі сябрамі, дэкламавалі вершы беларускіх паэтаў, вядома, пад вялікія апладысменты цэлай школы.

Калі мы спыталі дзяцей пра самыя любімыя заняткі, пачулі:

— У школе вядзецца мастацкі праект для дзяцей, дзе навучаюць іх танцаў, спеву і малявання. Сярод любімых заняткаў — паездкі на басейн у Гайнаўку.

* * *

Гледзячы на задбаныя вёскі і здаровы выгляд дзяцей, чалавек не паверыць у бяду і матэрыяльныя нястачы, на якія наракаюць нашыя вяскоўцы. Тая бяда звычайна не дазваляе ім падпісацца на „Ніву". Калі пачнеш для такога гаварыць пра духовыя справы, адразу пасыплецца лямант і плач: *У нас няма грошай на хлеб.*

— Ці сапраўды вашыя дзеці такія ўжо бедныя? — пытаю ў дырэктаркі школы.

— Тая бяда бярэцца з беспрацоўя і бездапаможнасці вясковых людзей, — чуем у адказ. — Тыя прыгожыя дамы, якія вы бачылі ў дарозе, паставілі людзі, якія пераехалі з гарадоў.

— А многія дзеці атрымліваюць дармовыя абеды ў школе?

— Калі глядзець на агульную колькасць дзяцей, дык можна сказаць, што вельмі многа. Бо чатырнаццаць асоб і дзве яшчэ „дырэктарскія"...

— А што значыць „дырэктарскія"?

— Гэта тыя, якіх я сама назначаю, — кажа спадарыня Ева Мароз.

Калі гаварыць пра нязменнасць у школе, тут яшчэ прыкметная адсутнасць рамонтаў. Цягам апошніх гадоў ліквідавалі кухню і кожны дзень абеды прывозяць з Дубін.

— Мы доўга маглі б наракаць на ўсякія невыгоды і ашчаднасць, — згодны што да аднаго настаўнікі, — але тут найважнейшае, што школа захавалася, існуе і служыць грамадскасці.

Як памятаю, пытанне наконт існавання школы тут ставяць ужо шмат гадоў, усё з-за дэмаграфічнай ямы. Такая сітуацыя вучыць пакоры. І радасці ад звычайных спраў.

— Нядаўна мы даведаліся, што ў наступным годзе наша школа будзе нармальна працаваць, — не хавае радасці дырэктарка Ева Мароз, — і гэта найлепшы падарунак для нас і нашых дзяцей.

Фота Улі ШУБЗДЫ



Настаўніца беларускай мовы Яўгенія Сухадола (злева) і Ганна Кандрацюк

Фота Ганны КАНДРАЦЮК



ISSN 0546-1960